
Скарына ў Чыквіна→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Майстрыха іголкі і пяра→4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 07 (3118) Год LXI Беласток, 14 лютага 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Віншуем Надзею Артымовіч з круглым юбілеем

# Ружа на ўзбочыне

«У творчасці паэта ёсць адзін важны верш» — так піша Надзея Артымовіч у сваім эсэ «Паэзія — гэта вольнасць», змешчаным у яе апошнім зборніку «Жоўтая музыка», выдадзеным нашай рэдакцыяй у 2005 годзе. Я не ведаю, які верш з'яўляецца гэтым адзіным, самым важным для яе самой. Спадзяюся, што ён увесь час пішацца. Але ж усё напісанае дагэтуль Надзеяй Артымовіч дае кожнаму з нас магчымасць адшукаць у яе паэзіі менавіта той самы, адзіны, важны верш — твой верш. Вершы, якія будзе ўсплываць у тваіх думках у розных неспадзяваных хвілінах і месцах. Верш — мантра, малітва, замова. Замова, мова, слова. Маўчанне — ці ж не самае таемнае і характэрнае для сакрум і прафанум ейнага жыццёва лёсу? Аднак больш трапным здаецца тут гаварыць не пра жыццёвы лёс, а пра жыццёвы выбар. Паэтэса вельмі часта падкрэслівае, што яе паэзія гэта самотнасць. Аднак ці не важнейшая тут роля самастойнасці? Так, Надзея Артымовіч аж да болю кожнай костачкі свайго крохкага цела даказвае сабе і нам, што ўсё дагэтуль пражытае і напісанае гэта ейны свядомы выбар. Каб рабіць такія выбары, патрэба годнасці і адвагі з прыбаўкай нейкага нястрыманага летуцення — паэтычнага, беларускага, бельскага. І ад першага дэбютнага верша ўзлецела высока, за кіслародам, за бязмежным даляглядам. Разам з гусямі, менавіта тымі ад Белай Русі. Толькі кім узляцела? Казачным лебедзем ці жанчынай Ікарам... А лётаць не кожнаму дадзена. А можа мара пра палёты, космас, пераломванне чалавекам законаў фізікі нейк генетычнае ў родзе Артымовічаў? Блізкія сямейнікі паэтэсы пайшлі шляхам астраномаў і фізікаў. Так здарыцца ў нас, што некалькі гадоў пазней у беларускай прозе на Падляшшы, над Гайнаўкай пачне лётаць Колька Міхася Андрасюка. Паэзія і проза пошукаў праўды і надзеі. Тыя пошукі Юбілярка заўсёды выяўляла на старонках «Нівы», у сяброўстве з нашай рэдакцыяй. Надзея Артымовіч — ніўская ружа. І менавіта калі яе літаратурныя сябры-«белавежцы» — бы тыя сімвалічныя дубы, грабы, ляшчыны, клёны — выбіваліся высока і распіхваліся паміж сабою, яна вырасла адзінокай цярністай ружай на ўзбочыне.

Усе пошукі — гэта выпрабаванне шляхам вандравання, спазнаванне свету і ныранне ў глыбіню самога сябе. Для мужчын рэзервавана слова канкрэтнае — вандроўнік. А жанчына, якая здольная да такіх подзвігаў, то хто ў такім выпадку? Вандроўніца? Банальна і смешна — гэта адна з любімых показак Надзеі Артымовіч. Алё ёй самой такое вандраванне па літаратуры і жыцці, спалучанае з лётаннем, прынясе цярпенне. Цярпенне ў адказнасці за лёс слова і прасторы. Прасторы дому, вуліцы, горада, могілак. А затым пойдуць роздумы над белымі пейзажамі пад адплываючым у бязмежнасць сінім небам. Спазнаванне і адкрыванне чарговых дзвярэй з таямніцамі чалавецтва нагадвае таемныя вандроўкі Алісы з краіны цудаў. Стары буфет, шафа, стол, фатэль, запыленыя кніжкі дазваляюць адчуваць і віраваць у шалёным танцы пад жоўтую музыку лісцяў, што пяшчотна туляцца да ейнага акна. Лісце, дрэвы, шпацыр. Напэўна шалік і чорныя рукавічкі. Чорны колер Надзеі Артымовіч як чорныя сны? Але ж не. Эстэтычныя стылізацыі Надзеі Артымовіч гэта не толькі паэзія. Гэта інстынктыўная, да болю жаночая прага танца мадоннаў. Свет пурпуровых ружаў, чырвонага віна, надзей, развеяных у папяросным дыме. І тады няма наракання — ёсць вырваныя, выкрычаныя словы, што кладуцца ў паэтычныя радкі ў амаль стэрыльнай цішыні. Словы знойдзеныя таксама ў блуканнях завулкамі Бельска.

Кожны горад мае свае гістарычныя, мастацкія, жыццёвыя індывідуумы — асобы сімвалы, твары лёсу жыхароў горада. Бельску напэўна пашанцавала. Ён мае Надзею Артымовіч. Яе шпацыры па сваім горадзе нагадваюць элегантнасць і культурнасць мяшчанскага свету пераломy XIX і XX стагоддзяў. А так прыгожых радкоў, ахвяраваных паэтэсай роднаму Бельску, не паўторыць ніхто. Здаецца, аднак, што гэта каханне без узаемнасці. Бо чым жа аддзячвае ён нашай Юбілярцы? У ейным паэтычным горадзе блізкія дзеляцца духмяным хлебам, той сімвалічнай, хрысціянскай скарынкай, якая яднае людзей. Скарынка хлеба надта часта бывае сёння падлітая горкімі слязамі і зняверанием у чалавецтва. Але мне верыцца, што зараз разбудзіцца бельскі стары музыка і зайграе для Надзеі ў яе дзень нараджэння тыя мелодыі і песні, ад якіх затрапечуцца людскія сэрцы. А яе рука пачне праліваць на паперу чарговыя радкі вершаў пра зачараваны горад і наш лёс. І наступныя чытачы і пакаленні будуць у змозе адшукаць для сябе менавіта самы важны верш жыцця. Ніжэйпадпісаны дзякуе Табе за ўсё, Надзя!

Яўген ВАПА

І нагадваю ТВОЙ верш, той самы важны для мяне:

***Калі блізкі зраніць цябе***
***Маўчы...***
***Калі згасне апошні прамень надзеі***
***ў тваім сэрцы***
***Маўчы...***
***Калі ўпадзеш у палон буры***
***Маўчы...***
***Калі тоне твая лодка***
***Маўчы...***
***Калі любіш паэзію***
***Маўчы, не гавары нікому...***



**Надзея АРТЫМОВІЧ** нарадзілася 18 лютага 1946 г. у Аўгустове каля Бельска-Падляшскага. Дзяцінства Надзеі Артымовіч прайшло ў Бельску-Падляшскім, тут яна хадзіла ў пачатковую школу і Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй імя Тарашкевіча. У 1965-1967 гг. вывучала рускую філалогію на настаўніцкіх курсах у Беластоку, а ў наступныя гады — беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце, які закончыла ў 1972 г. Пасля жыла і працавала (у тым ліку перакладчыцай) у Варшаве. Член Саюза польскіх пісьменнікаў з 1986 г. Цяпер на пенсіі, жыве ў Бельску-Падляшскім.

Друкавацца пачала ў 1970 г. Паэтычны дэбют Надзеі Артымовіч адбыўся ў «Ніве» («Ой, ляцелі гусі»). На працягу 1970-1975 гг. тут было надрукавана 13 прапанаваных паэтэсай вершаў. Пачынаючы з 1976 г. выйшлі новыя вершы, якіх ужо нямала друкавалася на старонках «Нівы», у «Беларускім календары», часопісе «Маладосць» і інш. Многія з іх датычаць працэсу духоўнай адаптацыі асоб, якія ва ўмовах індустрыялізацыі апынуліся ў віры жыцця вялікіх гарадоў; паэтэса асэнсоўвае гэта, пазбягаючы плыткага сентыменталізму і настальгіі па адыходзячай традыцыйнай вёсцы. У вершах «Мой родны горад», «Грудка зямлі», «Ёсць тое», «П'ю прагна» гучаць патрыятычныя матывы, увасабленнем якіх ёсць пакінуты родны кут, зямля дзяцінства; для іх характэрны ідэйны і эмацыйны зарад, вера і здаровы аптымізм. Значныя мастацкія вартасці выяўляе лірыка кахання (цыкл «Мы так блізка сябе»). Выразна паэтэса паказала сваю творчую манеру ў вялікім цыкле рэфлексійных вершаў «Варшаўскія пейзажы», водгук на разнастайныя праявы жыцця знайшоў тут адлюстраванне як у дыяпазоне праблем, так і ў мастацкіх сродках іх выяўлення. Зборнікі: «We śnie w bólu słowa» (1979), «Роздумы» (1981), «Сезон у белых пейзажах» (1990), «З неспакойных дарог» (1993), «Дзверы» (1994, разам з Алесем Разанавым), «Лагодны час» (1998), «Адплывае спакойнае неба» (1999), «Жоўтая музыка» (2005).

Крыніца: Вікіпедыя

Беласток, люты 2016 год

**Сардэчна віншуем Надзею Артымовіч, аўтарку паэтычных зборнікаў „Роздумы", „Сезон у белых пейзажах", „З неспакойных дарог", „Адплывае спакойнае неба" і інш. з прыгожым Юбілеем!**

Шчыра зычым далейшага паэтычнага плёну, шматлікіх чалавечых радасцяў, светлых сустрэч, высокіх памкненняў душы, штодзённай жыццёвай святочнасці ў „акіяне хараства" роднага Бельска.

**Управа Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа"**





# Салодкі дым

Дзіўная рэч гэтая гісторыя. Колькі разоў яна паўтаралася, а вось жа ізноў усё па звыклым коле ідзе. Сапраўды ў кола няма і не будзе канца. Адна мая знаёмая неяк у размове шчыра здзіўлялася — яна светла і наіўна была перакананая, што жахі і катастрофы Другой сусветнай вайны ніяк не могуць паўтарыцца ў бліжэйшай агляднай будучыні, што чалавецтва зрабіла глабальныя высновы з жорсткіх урокаў XX стагоддзя і няўхільна будзе пільнавацца міру і будаваць усеагульны лад. Але, на жаль, не туды тое. І зараз хісткі парадак і мір, калі іх можна так назваць, у гэтым свеце павіслі на валаску. Галоўная прычына такога трывожнага стану — агрэсія Расеі ў розных кропках свету. Яна, гэтая маскоўская палітыка, пры патуранні і доўгім маўчанні заходніх урадаў, развівалася пятнаццаць гадоў і прыйшла да свайго лагічнага зыходу. І зараз ваеннае сутыкненне Расеі і яе гістарычнага праціўніка Турцыі выглядае амаль непазбежным. Нават войскі ўжо прыведзены ў поўную баявую гатоўнасць. А Турцыя — гэта не слабая і неабароненая Грузія ці Украіна. Турцыя — гэта дзяржава з магутнай арміяй, а галоўнае — дзяржава „пад парасонам" НАТА. На сілу і агрэсію яна адкажа адпаведнай сілай. А калі пачнецца такая вайна, наступствы для зямнога шарыку становяцца непрадказальнымі.

Вайна — гэта натуральны стан Маскоўскай дзяржавы з часу Івана Жахлівага, якога яны замілавана, амаль з пяшчотай, называюць Грозным. Маскоўцам асабліва салодкі „дым Отечества", у іх дзіўная „любовь к отеческим гробам". Кароткія перыяды, калі ў гэтай дзяржаве спрабавалі нешта рэфармаваць і пайсці цывілізаваным шляхам, сканчаліся хутка і нязменна. Барыс Гадуноў, які на зломе XVI/XVII стагоддзяў узяў еўрапейскі курс, пратрымаўся нядоўга, фатальна супраць былі і прыродныя сілы — засухі, дажджы і маразы прывялі да страшнага голаду. Цар Гадуноў заўчасна памёр, хутчэй усяго яго атруцілі. Імператар Павел І, які імкнуўся даць і даваў рэлігійную вольнасць, культываваў рыцарства і арыентаваўся на нямецкія ўзоры, прабыў на троне толькі пяць гадоў. Гэтага манарха, як вядома, задушылі ў выніку змовы. Міхаіл Гарбачоў, які будаваў сацыялізм „с человеческим лицом", пацярпеў жорсткі асабісты крах, але хоць жывы застаўся. Праўда, у выніку распаду Савецкага Саюза з'явіўся шанц на нармальнае жыццё адразу для пятнаццаці народаў. Ды толькі ім — гэтым шанцам — амаль ніхто належна так і не скарыстаўся. Тая ж Расея, пакуль пры Ельцыне былі такія рэфарматары як Гайдар, развівалася, запрацавалі эканоміка, вольныя медыі, але вельмі хутка кагебэшная камарылля прыбрала ўладу да сваіх рук. І пайшло адраджэнне старой расейска-савецкай таталітарнасці, імперскасці, укараненне ўсяго антычалавечага. „Верной дорогой идёте, товарищи!". Так што правадыр сусветнага пралетарыяту Ільіч крыва ўсміхаецца ў сваёй шкляной труне маўзалея, на тым свеце „бацька народаў" Джугашвілі задаволена падкручвае вус, і нават шаленец фюрэр Адзік шчэрыцца ад радасці, назіраючы, што ідэалогія і справа фашызму жыве, а ягоная „майн кампф" дала такія ўрадлівыя плады ў краіне, дзе ён зламаў зубы і пацярпеў паразу.

Што нам з кожнай расейскай вайны выходзіць — добра вядома з той жа гісторыі. Вось возьмем, прыкладам расейска-французскую вайну 1812 года, якую нам цэлы час хочуць „навязаць" як „ацечаственную". Гэтая вайна паміж сусветнымі драпежнікамі сапраўды ішла пераважна на нашай зямлі — доўжылася яна паўгода. А продкі беларусаў ваявалі з абодвух бакоў. Так, у расейскім войску было каля 200 тысяч рэкрутаў з нашай зямлі, а значная частка шляхты, патрыётаў-літвінаў змагалася на баку Напалеона. У выніку Беларусь страціла каля аднаго мільёна чалавек (па розных падліках кожнага чацвёртага ці пятага свайго жыхара), палову пасяўных плошчаў, дзве трэці пагалоўя коней і свойскай жывёлы. А колькі культурных каштоўнасцей было знішчана і разрабавана! Варта згадаць толькі рабаванне расейскімі войскамі скарбаў Нясвіжскага замка за ўдзел Дамініка Радзівіла ў вайне на баку Францыі, і вываз „братамі" каштоўнасцей на ўсход. А зараз Беларусь зноў прывязана да Расеі рознымі спосабамі і вайсковым хаўрусам. А салодкі дым прапаганды атруціў мазгі многім.

У канцы буду аптымістам і прапаную чытачам адшукаць у інтэрнэце і паслухаць песню культавай групы „Ленинград" — „Москва, по ком звонят твои колокола?"...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Крамная палітыка

Некалькі дзён таму пахадзіў я сабе па будаўнічых маркетах. У Гайнаўцы ёсць іх па меншай меры тры. Кожны поўны тавараў. Інструменты, фарбы, дываны, люстры, элементы з больш ці менш выразным вызначэннем што да чаго, шрубы, машыны. Хочаш аднавіць кватэру — можаш выбіраць з дзясяткаў фарбаў, падлогавых пакрыццяў, шпалераў, пэндзляў і нават фіранак. Я бездапаможна паглыбіўся ў гэты мурашнік рэчаў і... цэн, варухлівых як мурашы. Артыкулы быццам бы такія самыя, але нюанс — іншы вытворца. Ашалець можна! Палітычна здурнець.

Давайце глянем на такі будаўнічы маркет... Пакупнікі там у меншасці. Мабыць, іх нават менш чым прадаўцоў, кансультантаў, экспертаў і дарадцаў. Затое большасць з іх гэта звычайныя гледачы — заблукаўшыя сярод паліц, учадзелыя ад стымулаў куплі, коштавых спакус, нерашучыя, заблытаныя ад мноства прадуктаў — з больш-менш вытанчанай формай. Людзі з невялікай колькасцю грошай у кішэні ці без крэдытаздольнасці. Значыць, без сталай працы. Усе адзін на аднаго падобныя. У гэтак жа несамавітым абутку, абы-якім адзенні. Ананімныя, хоць і з характэрным нумарам ідэнтыфікацыі — гэтай лічбавай татуіроўкай цывілізаванага свету, прыпісаным да твайго імя, даты нараджэння і полу. Дастаткова інфармацыі, каб вызначыць чалавека, але недастаткова, каб вызначыць яго матэрыяльнае і сацыяльнае становішча, яго культурныя і сацыяльныя комплексы, амбіцыі і погляды. Нарэшце, і мары, даступныя для ўсіх у невычарпальным выбары. І яго бушуючыя эмоцыі, якія з'яўляюцца цёмным або светлым бокам жыцця кожнага з нас: альбо з-за генетычнай няроўнасці і сацыяльнай несправядлівасці, або магчымых і для ўсіх адкрытых шанцаў, ды надзеі, якая гасне ў людзях, як вядома — апошняй. От, большасць, якая з адлегласці пустой кішэні глядзіць на тых, якім вядзецца лепш з эгалітарнай надзеяй, што ўсё ж не заўсёды кожнаму мусіць пайсці горш. Большасць, якая не купляе, а хутчэй сама аддае сябе ў продаж. Няхай і за абяцанне «добрай змены» або дарэмны латарэйны білет, які раздаюць палітычныя партыі, абяцаючыя выйгрыш для ўсіх, хто прымае ўдзел у выбарчай латарэі. Усе, аднак, і тыя пакупнікі, і тыя, каго можна купіць, бадзяюцца па крамных дарожках як свабодныя грамадзяне. Хто можа сабе дазволіць, той купляе, не думаючы. Хто не можа дазволіць сабе гэтага, калькулюе цэны, вывучае рэкламныя ўлёткі, прымервае патрэбы да сваіх чаканняў і магчымасцей. І магчымасці параўноўвае з марамі. Як гэта ў дэмакратыі. Кожны чалавек мае свабоду выбару. Толькі як тут свядома выбраць з ліку тысяч магчымых прапаноў? Якой рэкламе даверыць? Ці даверыць словам крамнага дарадцы, ці ўлётцы вытворцы? На самой справе, можна адурэць ад віску праўдаў і паўпраўдаў.

Эх, успомніліся мне часы геэсаўскіх крам... Глыбокі камунізм. У сярэдзіне вечны паўзмрок, застылы смурод цыгарэт і кіслага піва. Такі магазін пад эгідай сельскагаспадарчага кааператыва быў таксама ў маёй вёсцы. Слёзка коціцца з вачэй! Узімку ён быў суседскім клубам. Да чырвані разагрэтая печка акружана вянком пляткуючых жанчын. Мужчыны займалі падаконнік. Курылі «з рукава», спадцішка пацягваючы піўцо. Часам гаспадар пайшоў у краму раніцай па 100 грамаў цвікоў, а дахаты вяртаўся ўвечары — без цвікоў, але «ў добрым гуморы». Насупраць уваходных дзвярэй стаяў шырокі прылавак. На ім — шалі з гіркамі і скрынка з трыма вэнджанымі скумбрыямі. Або з мармеладам. За стойкай грувасціліся тры паліцы. Чацвёртай была брудная падлога. На ёй стаялі скрынкі з півам, часам вядзерца селядцоў. На самай верхняй паліцы спакушаў цымус: адна-дзве бутэлькі імпартнага віна, настольны набор з фаянсу і эмаляваны посуд — не ведаю чаму іх было заўжды па дзве штукі. На ніжэйшай — мешаніна харчу: клейкія бутэлькі з алеем, цукар, мука, а часам і пакет гарбаты «Улун». Ледзяшы ў слоіку. Вафлі ў кардоннай скрынцы. Паміж імі шкельцы да газоўкі, відэльцы, скрынка з цвікамі. Папяросы «Спорт». Пакупкі былі простыя: „Дайце пачак папярос і кубік масла". — „Масла ўжо няма". — „Ну, дык можа шмалец..." — „Не давезлі". — „Ну дык маргарын!" — „Маюць давезці...". Ну і, камуна! Вось, якая гэта была тады палітыка!

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Знешняя палітыка ў 2016 годзе

Традыцыйна на пачатку года міністр замежных спраў прадстаўляе ў парламенце паведамленне пра задачы польскай замежнай палітыкі на бягучы год. Сёлета зрабіў гэта Вітальд Вашчыкоўскі, кіраўнік знешнепалітычнага ведамства ва ўрадзе Бэаты Шыдла, які кіруе краінай з лістапада мінулага года. Як і кожны год, мяне найбольш за ўсё цікавіла тое, што МЗС плануе адносна Беларусі і ўсёй усходняй палітыкі, у тым ліку Усходняга партнёрства — праграмы па супрацоўніцтве ЕС з шасцю краінамі былога Савецкага Саюза: Арменіяй, Азербайджанам, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай.

У першай частцы выступлення міністр Вашчыкоўскі сказаў між іншым: «Вызначальнікам для нас будзе супольнасць каштоўнасцей дэмакратычнага свету, якія ствараюць прастору аб'ядноўваючую грамадствы вакол мірнага развіцця і супрацоўніцтва, незалежна ад культурных умеласцей і гістарычнага вопыту. Гэта азначае, што для Польшчы асновай агульных інтарэсаў вышэй за ўсё будуць каштоўнасці, якія з'яўляюцца здабыткам еўрапейскай цывілізацыі. Гэтымі каштоўнасцямі з'яўляюцца ў асноўным рымскае права, грэцкая філасофія і хрысціянская этыка, рацыяналізм, агульнае дабро і захаванне правоў чалавека».

Што тычыцца ўсходняй палітыкі, заявіў: «Хаця ва Усходняй Еўропе разбуральную ролю іграе расійская палітыка, але не толькі яна адна з'яўляецца крыніцай турбот. Адмоўны ўплыў на гэты рэгіён робяць таксама карупцыя і адсутнасць паслядоўных палітычна-канстытуцыйных рэформ і свабоднага рынку». Падкрэсліў: «Дальнабачная і амбіцыйная ўсходняя палітыка з'яўляецца адным з самых важных аспектаў знешняй палітыкі польскай дзяржавы. (...). У інтарэсах Польшчы ёсць, каб усходнееўрапейскія грамадствы дзейнічалі ў адпаведнасці з літарай і духам Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і АБСЕ і без апасак мелі права на суверэнны выбар шляху развіцця, палітычнага ладу і альянсаў, без боязі за сваю бяспеку».

Далей са спасылкай на Усходняе партнёрства, сказаў: «Разам з рэгіянальнымі партнёрамі ўлічваем усе станоўчыя аспекты Усходняга партнёрства і дадаем новыя элементы, якія спрыяюць актывізацыі рэгіянальнага супрацоўніцтва. Я ўжо пачаў размовы са сваімі партнёрамі са Швецыі, Фінляндыі, Літвы і Румыніі. Спадзяемся, што ўступленне ў сілу пагадненняў аб асацыяцыі з Грузіяй, Малдовай і Украінай і зялёнае святло ад Еўрапейскай камісіі са адмену віз для грамадзян Грузіі і Украіны будзе спрыяць стабілізацыі ў рэгіёне і заахвочваць да развіцця рэгіянальнага супрацоўніцтва. Згодна з духам індывідуальнага падыходу будзем таксама падтрымліваць супрацоўніцтва Еўропы з Беларуссю, Арменіяй і Азербайджанам».

Таксама ў ходзе дыскусіі аднёсся да практычнай рэалізацыі праграмы Усходняе партнёрства: «Гэтая палітыка скончылася катастрофай. Таму што Майдан, Еўрамайдан аспрэчыў яе. Людзі выйшлі на Еўрамайдан, патрабуючы: «Мы хочам у Еўрапейскі Саюз. Мы не хочам сядзець у сенцах, якія былі створаны пад назвай «усходняя палітыка». Гэта не поспех партнёрства, таму што яны кінулі выклік самому партнёрству і патрабавалі членства. І ў той момант, калі прапанаванае ім было пагадненне аб асацыяцыі, партнёрства скончылася».

Успамінаючы пра Беларусь, заявіў: «З надзеяй глядзім на ажыўленне адносін Еўрапейскі Саюз — Беларусь. Польская дыпламатыя не мае намеру ўмешвацца ў палітыку якой-небудзь краіны. Чакаем, аднак, асабліва з боку суседзяў, толькі захавання стандартаў, устаноўленых законам і міжнароднымі арганізацыямі. Вызваленне беларускімі ўладамі палітычных зняволеных з'яўляецца крокам у правільным напрамку — выкананне міжнародных стандартаў. Але калі мы хочам ісці па гэтым шляху, то спатрэбяцца дадатковыя сумесныя дзеянні. Разлічваем на актывізацыю супрацоўніцтва ў галіне інфраструктуры, у тым ліку павелічэнне прапускной здольнасці пагранічных пераходаў і спрашчэнне правілаў руху людзей, асабліва праз ажыццяўленне пагаднення аб малым памежным руху. Нам таксама вядома, што ў дыялогу з Мінскам не пазбегнем цяжкіх пытанняў. Праблемы польскай меншасці ў Беларусі застануцца ў нашым парадку дня. Спадзяюся, што па гэтых пытаннях паразмаўляю ў бліжэйшы час у Мінску».

Міністр звярнуў увагу на важнае: «У адказ на ўзрастаючую зацікаўленасць Польшчай, будзем клапаціцца аб правільнасць працэсу хадайнічання за польскія візы».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Пасол прывёз Скарыну ў Бельск

**«Бельскія мастацкія кліматы» — штогадовае мерапрыемства, арганізаванае Бельскім домам культуры ў пачатку новага года, падчас якога падводзяцца вынікі мінулагодняй працы, уручаюцца ўзнагароды, а калектывы выступаюць перад бельскай публікай. 5 лютага гэтага года «Бельскія мастацкія кліматы» сталі міжнародным мерапрыемствам. Прысутнічалі ў ім дыпламаты Рэспублікі Беларусь — пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў, генеральны консул РБ у Беластоку Ала Фёдарава, улады горада Кобрына, які мінулага года стаў афіцыйным партнёрам Бельска-Падляшскага, і калектыў песні і танца «Бурштын» з Кобрына. Нагодай для прыезду дыпламатаў Рэспублікі Беларусь у Бельск-Падляшскі стала ўручэнне дзяржаўнай узнагароды РБ — медаля Францыска Скарыны, прысвоенага за актыўную папулярызацыю беларускай літаратуры, мовы і культуры беларускаму паэту, даследчыку беларускай літаратуры, шматгадоваму старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і шматгадоваму навуковаму працаўніку Універсітэта ў Беластоку прафесару Яну Чыквіну. Бельская публіка мела нагоду паслухаць верш Яна Чыквіна, які прачытаў член Тэатра сеніёра «Рэтра» ў БДК Уладзімір Весялоўскі і паглядзець выступленні музычных калектываў Бельскага дома культуры.**



Пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў уручае медаль Францыска Скарыны прафесару Яну Чыквіну

— Я вершы Яна Чыквіна ведаю здаўна, — заявіў пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў, які разам з дырэктарам Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуардам Швайко ўручыў медаль Францыска Скарыны прафесару Яну Чыквіну.

— Я ўзрушаны і ўспрымаю медаль перш за ўсё як узнагароду для Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое вельмі плённае і хутка будзе святкаваць юбілей, а толькі пасля ўспрымаю як узнагароду для мяне, як нявык маёй працы. Я рады, што медаль уручаецца тут, у Бельску, куды прыязджаюць госці з Беларусі і заўважаюць нашу працу, — заявіў прафесар Ян Чыквін; яшчэ да прапрыемства паэт сказаў «Ніве», што прысваенне яму медаля было неспадзеўкай і сам не ведае, хто канкрэтна быў ініцыятарам узнагароджання. — Пісьменнік піша для чытачоў і ідзе сваёй дарогай, незалежна ад узнагарод, якія атрымлівае.

Раней дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь ушанаваны былі нашы паэты Аляксандр Баршчэўскі і Віктар Швед.

— Прафесар Ян Чыквін узнагароджваецца сёння медалём Францыска Скарыны за ўсю яго творчасць, за прапагандаванне беларускай літаратуры, мовы і культуры ў цэлым, за вяртанне да беларускіх каранёў, — сказала намеснік дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Юлія Рубіна. — Сёння мы рашыліся таксама запрэзентаваць у Бельскім доме культуры выставу прац «Мае колы» вядомага прадстаўніка беларускага авангарду Міколы Бушчыка, які добра ведае спадара Яна Чыквіна.

«Бельскія мастацкія кліматы» вялі дырэктар БДК Малгажата Біль-Ярузельская і тэатральны інструктар Альжбета Фіёнік.

— Беларускі жывапісец Мікола Бушчык гэта экспрэсіяніст, удзельнік звыш 200 мастацкіх выстаў у Беларусі і па-за яе межамі. У яго творчасці відаць свабоду колеру і свежыя ідэі, часта інспіраваныя класічнай музыкай, — гаварыла дырэктар Малгажата Біль-Ярузельская.

— Беларуская паэзія і беларуская культура, якія прапагандуе Ян Чыквін, гэта асаблівая каштоўнасць нашага горада. Ян Чыквін — бяльшчанін, які ў сваёй творчасці расказвае таксама пра славутае мінулае Бельска-Падляшскага, — заявіў старшыня Рады горада Бельск-Падляшскі Ігар Лукашук.

— «Бельскія мастацкія кліматы» гэта нашае шматгадовае мерапрыемства. Сёння ўдастоілі нас госці з Беларусі і Беластока, — сказала дырэктар Малгажата Біль-Ярузельская, якая ў пачатку мерапрыемства па чарзе вітала запрошаных гасцей.

Побач дыпламатаў Рэспублікі Беларусь і гасцей з Кобрына ў мерапрыемстве прысутнічаў, між іншым, падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі, які разам з бургамістрам Бельска-Падляшскага Яраславам Бароўскім уручыў узнагароды членам Украінскага калектыву песні і танца «Ранок», які ў мінулым годзе адзначаў свой юбілей. Новыя асобы атрымалі штогадовыя ўзнагароды «Сябра Бельскага дома культуры», а сталі імі праваслаўны і каталіцкі святары: бельскі віцэ-дэкан протаіерэй Георгій Багацэвіч і ксёндз Збігнеў Кароляк, а таксама старшыня Кааператыўнага банка ў Бельску-Падляшскім Лявон Радзіванюк. Узнагароды «Сябра Бельскага дома культуры» выканала інструктар мастацтва ў БДК Марыя Бабулевіч.

У Бельскім доме культуры дзейнічаюць хор «Васілёчкі» ды калектывы «Маланка» і «Куранты», якія прапагандуюць беларускія песні, танцы і музыку на народных інструментах. Усе яны займальна запрэзентаваліся перад публікай.

— Сёння свята Бельскага дома культуры і калектываў, якія дзейнічаюць пры гэтай установе. У іх выступаюць прадстаўнікі трох пакаленняў. Сабраліся тут члены калектываў, якія з сямейнікамі саставілі некалькі соцень асоб. Займаюцца тут файныя людзі, якія робяць файныя рэчы, — сказаў бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі.

— Спачатку мы сталі ладзіць канцэрты паасобных калектываў, якія займаліся ў Бельскім доме культуры, а пазней пачалі арганізаваць «Бельскія мастацкія кліматы» з мэтай прэзентаваць бельскай публіцы ўсе нашы музычныя калектывы. Зараз я прыходжу на мерапрыемствы як пенсіянер і музычны кіраўнік калектыву «Маланка». Апошнім часам я ўспамінаў, як праводзіў сваё жыццё з беларускімі песнямі і палічыў, што толькі з калектывам «Маланка» мы выдалі на касетах і кампакт-дысках 142 песні, якія раней трэба было падрыхтаваць і пасля развучыць, — сказаў былы дырэктар БДК Сяргей Лукашук.

— Мы сёння праспявалі тыя беларускія песні, з якімі выступім заўтра на раённым аглядзе Фестывалю «Беларуская песня» ў Бельску. У нашым рэпертуары ёсць песні на розных мовах, але «Куранты» гэта беларускі калектыў і ў нас асноўны рэпертуар — беларускі. «Бельскія мастацкія кліматы» важныя для музычнага асяроддзя Бельска-Падляшскага, бо інтэгруюць яго. Спачатку мы выступаем на сцэне, пасля супольна гасцюем і гуляем, — сказала Аліна Негярэвіч, музычны кіраўнік мужчынскага калектыву «Куранты».

— Сённяшняе выступленне перад публікай будзе нашай апошняй рэпетыцыяй перад заўтрашнім аглядам «Беларускай песні». Мы сёння заспяваем тыя дзве песні, якія заўтра выканаем перад конкурснай камісіяй і пабачым, якія ў нас хібы, і што можна яшчэ выправіць. Мы падрыхтавалі на наш фестываль адну песню паводле музыкі і харэаграфіі беларускага кампазітара Яўгена Петрашэвіча, майго настаўніка з Гродна, — сказаў музычны кіраўнік хору «Васілёчкі» Мікола Фадзін.

Удала запрэзентаваліся ў БДК таксама Хор польскай нацыянальнай песні і Студыя песні «Фарт», а таксама ў сольным нумары музычны кіраўнік студыі Юстына Пажазінская.

Найдаўжэй выступаў госць з Беларусі — калектыў песні і танца «Бурштын» з Кобрына. Яго спевакі расказалі пра цеснае супрацоўніцтва з Музеем малой айчыны ў Студзіводах і яго старшынёй Дарафеем Фіёнікам. У мінулым годзе была падпісана дамова паміж бельскім і кобрынскім самаўрадамі і з гэтага часу гарады Бельск-Падляшскі і Кобрын сталі партнёрамі. Гарадскі радны і старшыня павятовага аддзялення БГКТ у Бельску-Падляшскім Аляксандр Божка станоўча ацаніў супрацоўніцтва з Кобрынам, якое выйшла ад Дарафея Фіёніка і Студзіводскага музея.

— З Дарафеем Фіёнікам і Музеем у Студзіводах мы супрацоўнічаем з 2005 года. На фестывалі ў Студзіводах і на іншых мерапрыемствах, якія арганізаваў Дарафей Фіёнік, пабывалі, між іншым, нашы калектывы «Зараніца», «Магдаліна», «Навасёлачкі», «Бурштын». Цікавымі былі тыя сустрэчы ў Польшчы, падчас якіх прэзентаваўся неапрацаваны фальклор. Вашы калектывы «Жэмэрва» і «Маланка» многа разоў пабывалі ў нас і таму мы пасябравалі. У калектыве «Бурштын» мы прэзентуем народныя беларускія песні ў апрацоўцы і такія творы заспяваем сёння, першы раз на сцэне Бельскага дома культуры. Нам цікавыя таксама выступленні вашых калектываў з беларускімі песнямі. Калі ўжо наладжана афіцыйнае супрацоўніцтва паміж гарадамі Бельск і Кобрын, то разлічваем на чарговыя супольныя сустрэчы і выступленні, — сказала Таццяна Татоліна з калектыву «Бурштын».

У хоры «Васілёчкі» выступілі асобы, якія займаюцца таксама ў Тэатры сеніёра «Рэтра» ў Бельскім доме культуры. 8 лютага мелі яны выступіць у БДК падчас «Тэатральных запустаў», разам з тэатральным калектывам «Антракт», у якім займаюцца бельскія дзеткі і моладзь.

— Падчас «Тэатральных запустаў» выступяць нашы дэкламатары, якія на працягу апошняга года дабіліся поспехаў падчас дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова». Тэатр сеніёра «Рэтра» пакажа спектакль «Лавачка», а калектыў «Антракт» і акцёры з «Рэтра» супольна запрэзентуюць «Хрысціны ў Ягуштове з 1813 года», да якіх сцэнарый напісаў Дарафей Фіёнік, а таксама дзясяты раз выступім з пастаноўкай «Бежанства». Мы ў розных месяцах паказвалі яе, але так склалася, што не выступалі з ёй яшчэ ў нашым доме культуры, — заявіла тэатральны інструктар БДК Альжбета Фіёнік.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**ФНР**

Фонд народных рэцэптаў

## Лячэбны масаж пальцаў

Хопіць на працягу 1 хвіліны масажаваць свой палец. Гэта зробіць цуд у тваім арганізме!

**Джын шын джытсу** — мастацтва самааднаўлення з Японіі з'яўляецца часткай традыцыйнай кітайскай медыцыны. Паводле вучэння многіх далёкаўсходніх медыцынскіх навук праз нашае цела прабягаюць энергетычныя каналы. Выкарыстоўваючы стымуляцыю адпаведных месцаў, можам разблакаваць энергію ў нашым арганізме, палепшыць здароўе і павысіць агульны настрой.

Так што ўсё, што трэба нам у жыцці, каб дасягнуць гармоніі і раўнавагі, ёсць у нас саміх. Як выкарыстоўваць джын шын джытсу на практыцы? Гэта вельмі проста! Дастаткова, што пазнаёмішся з наступнай інструкцыяй да масажу пальцаў рукі (масаж робіцца на абедзвюх далонях).

Калі будзеш масажаваць **вялікі палец**, можаш: аднавіць баланс страўніка і селязёнкі, палагодзіш нервовасць, неспакой і дэпрэсію, праблемы са скурай, галаўныя болі, болі ў жываце і пачуццё пастаяннай стомленасці.

Калі будзеш масажаваць **указальны палец**, можаш: аднавіць гармонію ў нырках і мачавым пухіры, палегчыш неспакой і цягліцавыя спазмы, болі ў спіне, зубны боль і праблемы са страваваннем.

Калі будзеш масажаваць **сярэдні палец**, можаш: аднавіць раўнавагу ў печані і супакоіць нервы, таксама ўтаймаваць пачуццё гневу і няўпэўненасці, палепшыць сардэчна-сасудзістую сістэму, пазбыцца менструальных боляў, праблем са зрокам і галаўным болем.

Калі будзеш масажаваць **сардэчны палец**, можаш: прывесці ў баланс лёгкія і органы стрававання, пазбыцца неспакою, а таксама звону ў вушах, праблем з дыханнем і са страваваннем.

Калі будзеш масажаваць **мезенец**, можаш: аднавіць раўнавагу ў тваім сэрцы, дапамагчы пры ўздуцціх, болю ў горле, праблемах з косткамі, пачуццём напружанасці і самоты.

**Ясюк СТРУК**

## Больш стаянак для аўтамабіляў

У Беластоку не хапае стаянак для аўтамабіляў. Самаходаў усё прыбывае. Некаторыя сем'і маюць два аўтамабілі. У мінулым годзе ў горадзе пабудавалі ўсяго 80 стаянак.

Зараз новыя стаянкі супольна будуюць магістрат і жыллёвыя кааператывы. За новымі стаянкамі на пасёлках хадайнічаюць жыхары, між іншым, жыллёвага кааператыва „Сям'я чыгуначнікаў". Сёлета пабудуюць для іх — ёсць такія планы — новыя стаянкі для аўтамабіляў пры будынках на вуліцах Сталочнай (Сталічнай) і Ляшчынавай. Будзе іх каля сарака.

У беластоцкім магістраце плануюць пабудаваць яшчэ дадатковыя стаянкі для аўтамабіляў пры вуліцах Вятраковай, Складовай, Блокавай, Мядзведзяй, Мадлінскай і Жаромскага ды алеі Канстытуцыі 3 Мая.

Кааператыў „Сонечны сток" хоча будаваць новыя стаянкі пры блоках па вуліцы Арміі Краёвай, кааператыў „Вялікаблокавы" — па вуліцы Вейскай (Вясковай), а Беластоцкі жыллёвы кааператыў — пры вуліцы Бранеўскага.

Варта дадаць, што ад некалькіх гадоў у планах горада ёсць будова стаянак для аўтамабіляў у цэнтры горада паміж вуліцамі Ліпавай, Лінярскага і Суражскай — за гасцініцай „Крышталь". Але і зараз на гэта малыя шанцы.

**(яц)**

## Ручнік на іконе святой

*Павесь ручнік вышываны свой*
*У хатнім куточку на іконе святой.*
*Тады ікона хараством ажыве,*
*Ласкі і радасці гэтай хаце дадае.*
*Называецца ў гаворцы святы куточак.*
*Кожны з дамаўнікоў ахвотней маліцца хоча.*
*Калі прыйдзе час у вечнасць адысці,*
*Трэба чысты ручнік на ікону прынясці.*
*Цела закапаюць у сырую зямлю,*
*А душа да сарака дзён*
*Ходзіць па месцах пражытых табою,*
*Адпачывае ноччу за іконай святою.*
*Астаў ручнік, не выкінь яго,*
*Бо ён быў з табою заўсёды*
*Ад народзін і першага крыку*
*Да смерці тваёй.*

***Галіна БІРЫЦКАЯ***



# Майстрыха іголкі і пяра

Народная мастачка з Плянты Нараўчанскай гміны Галіна Бірыцкая 29 студзеня адзначыла ў галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы юбілей 10-годдзя сваёй творчай працы. З гэтай нагоды адкрылася 75-я выстава яе рукадзелля — вышыўкі, гафту і карунак.

— Спадарыню Галіну Бірыцкую смела можна назваць амбасадарам нашай Нараўчанскай гміны, — з прызнаннем гаварыў войт Мікалай Павільч, уручаючы ёй граматы і падарункі ў падзяцы за яе творчасць.

І праўда — мастачка адна з найбольш вядомых нараўчанскіх народных творцаў, расслаўляючых родную зямлю. Яе сіні стэнд з працамі — ручнікамі, іконамі, падушкамі пабываў у кожным кутку Падляшша ды іншых мясцовасцях Польшчы. Галіна Бірыцкая неаднойчы перамагала ў конкурсе „Гафт і карунка", ладжаным Гайнаўскім домам культуры. Вышыўкай афіцыйна займаецца ўжо дзесяць гадоў, але працуе з іголкай і кручком здаўна (ад 1960 да 2016 года — 56 гадоў, а пачала выступаць з працамі на выставах у 2006 годзе). Гэтыя дзесяць гадоў творчай працы Галіны Бірыцкай пацверджаны дыпломамі. Ад некалькіх гадоў Галіна Бірыцкая бачыцца таксама як народная беларуская паэтэса, сяброўка актыўнай групы паэтаў Нараўчанскай гміны, якіх вядомасць шырэе па-за абсягам роднай гміны. Цяпер вучыць працаваць іголкай маладое пакаленне: «Гэта юбілей маёй творчай прысутнасці ў шырэйшай прасторы», — кажа народная майстрыха, з радасцю і хваляваннем на сваёй чарговай, святочнай выстаўцы, на якую прыбылі яе сяброўкі па мастацтве з Міхалоўскай і Гарадоцкай гмін ды спецыяліст па ручніках Беласточчыны, кіраўнік Бельскага аддзела Падляшскага музея Аліна Дэмбоўская. У новым выданні пра ручнікі паявяцца ўзоры Галіны Бірыцкай і яе беларускі верш.

— Пераважна вышываю ручнікі, таму што ручнікі спадарожнічалі чалавеку ўсё яго жыццё, ад нараджэння да смерці. Люблю гэта рабіць, — кажа спадарыня Галіна. — Прыдумваю таксама новыя ўзоры на ўпрыгожванне ручнікоў, вышываю праваслаўныя іконы.

Галіна Бірыцкая, з роду Ахрымючанка, 1942 года нараджэння, не прапускае ні аднаго беларускага мерапрыемства на Падляшшы, каб паказаць свае здабыткі — рукадзелле. І не толькі сярод сваіх рэкамендуе свае гафтаваныя і вышываныя цуды былая чыгуначніца і прадаўшчыца. Кожны раз мусіць браць на фэсты з сабою адмысловую сінюю палатку-стэнд, дзе вешае і раскладвае сваё рукадзелле, не раз ушанаванае прызамі і ўзнагародамі.

Пад яе палаткай вісяць карункавыя сурвэткі, аброблены карункамі і вышываныя ручнікі, ляжаць між іншым падушкі ўпрыгожаныя гафтам. Атрымлівала за сваю творчасць узнагароды — за прыгожа вышываныя і аброблены карункамі ручнікі, вышываныя крыжыкам іконы напрыклад святцеля Мікалая Цудатворца, апостала Пятра і Божай Маці Хуткапаслушніцы. Свае ручнікі, сурвэткі і гафтаваную пасцель дорыць спадарыня Галіна сямейнікам і прадае людзям, якія заказваюць сабе яе вырабы. Галіна Бірыцкая паказвала свае работы і прадавала іх падчас «Дзён беларускай культуры» і «Агратурыстычнай біржы» ў Беластоку, у Ожышы, «Кірмашу зубра» ў Гайнаўцы, «Бандароўскай гасцёўні», «Прымацкай бяседы» ў Міхалове, на дажынках у Нараўцы, «Археалагічным фэсце» ў Збучы і «Свяце грыба" ў Міхалове, і на паказах у Польшчы.

— Пачала я рабіць гэта ў школе. Я вучылася ў школе ў Старым Ляўкове (родам сама я з Лазовага), — успамінае майстрыха. — Вельмі падабаліся мне работы кручком-шыдэлкам. У пятым класе пабачыла я ў сваёй настаўніцы абробленую хустачку. Адважылася ў яе папытацца, хто ў яе абрабляў, папрасіла, каб мяне гэтаму навучыла. Яна сказала, што гэта яе сястра рабіла ды папрасіла яе, каб паказала мне як робяцца слупкі, паўслупкі. І так я навучылася абрабляць хустачкі. Прыехала я дахаты. І зімою, на канікулах, залезла да мамы ў сундук, адрэзала кавалак палатна, вымерала да школьнага хвартушка на каўнерык, і абрабіла яго. Здалося мне, што ён вельмі харошы. Але як маме паказаць? Мама накрычыць, што палатно ўрэзала, змарнавала! Але калі прыйшла да яе цёця, пасядзець, яны так разгаварыліся, і я тады адважылася паказаць маю работу. Цёця пахваліла, мама ўжо не накрычала. Але мама больш не давала мне рабіць. Трэба было ў школу хадзіць чатыры кіламетры, далёка. Мама крычала, што трэба вучыцца. Але крадком, на канікулах, крыху я рабіла. Больш стала рабіць уручную, калі падрасла і ў пасаг пасцель выгафтавала, накідку на ложак вышыла і сурвэткі зрабіла. Пасля замуж выйшла ў Плянту, дзеці пайшлі, адной нагой калыхала, а рукою кручком сурвэтку рабіла... Сабе гафтавала яшчэ пасцель і выконвала кручком модныя абрусы. З 2006 года я першы раз публічна запрэзентавала свае работы на аглядзе і выстаўцы «Гафт і карунка» ў ГДК. Спачатку прэзентавала перш за ўсё сурвэткі і абрусы, а пазней вышытыя і аброблены карункамі ручнікі і вышываныя крыжыкам іконы. Узоры для ручнікоў, як для вышыўкі гладдзю на іх, так і для карункі бяру з колішніх ручнікоў. Раней вышывала крыжыкам розныя краявіды і карціны, узоры для якіх брала з розных часопісаў. У апошні час часцей вышываю іконы. Ёсць у мяне таксама ўзоры для выконвання карункавых фіранак, але не хапае часу, каб заняцца вязаннем фіранак. Я лічу, што трэба вяртацца да нашых традыцый і падтрымліваць нашае даўняе беларускае багацце, каб не прапала яно. На розных палатняных вырабах захавалася шмат нашых колішніх цікавых узораў. Працуючы ўручную, я супакойваюся, забываю аб штодзённых турботах і клопатах. Мае ручнікі вышываныя гладдзю і крыжыкам. Маю таксама вышытыя падушачкі, пасцель, але калі еду з палаткай, часам няма месца на пасцель. Харошая пасцель, карункай здоблена, падушкі харошыя. Дзе якія фэсты, важу тую пасцель, усе захапляюцца. Вышытыя мною іконы Збаўцы, Мікалая Цудатворца, Маці Божай Хуткапаслушніцы я ўжо высвенціла, на прэзентацыі іх найчасцей не важу, бо нельга высвенчаныя іконы вазіць па якіхсьці фэстах. Матэрыялы купляю ў крамах, скажам, лён. Але знайшла я яшчэ ў сваёй мамы льну, разрэзала на пяць ручнікоў і так іх выбельваю, — вышыю яшчэ пяць ільняных ручнікоў. Цяпер, на пенсіі, працую ўвесь час пры вышыўцы. Ад нашай гміны атрымлівала ўжо я ўзнагароды — дыплом за падтрымку родных традыцый ад Рады і спецыяльную ўзнагароду — падзяку мне за ангажаванасць у карысць прапагандавання народнага рукадзелля ад імя нашай гміны... Я вяду майстар-класы па рукадзеллі — трэба людзей пераканаць, што варта яшчэ карыстацца вырабамі на даўні лад. І міла, калі пра цябе пішуць у нашых беларускіх газетах, і калі друкуецца тваё слова пра родную старонку!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**




фота Адама Паўлоўскага

# Куры, качкі і індычкі

**Незвычайныя падзеі цягам апошніх некалькіх месяцаў адзначылі мясцовыя інтэлектуалы. Але пачнем ад пачатку, значыць з яйка, а, можа, з курыцы? Пра тое, што было на пачатку, ці яйка, ці курыца, спрачаліся найвялікшыя філасофскія мазгі гэтага свету. У сваіх высновах не пераплюнулі яны людзей неадукаваных.**

Пяцьдзясят кіламетраў ад граніцы з Качыстанам стаіць вялікі горад Качысток. Гэта сталіца ваяводства, слаўнага Курыстана. Быццам матрошка трымае Качысток пад сваёй ваяводскай спадніцай меншыя, павятовыя гарады. Пад павятовымі спадніцамі сядзяць гмінныя гарадкі, а пад гміннымі спадніцамі — усякага роду і памеру вёскі. Качысток ходзіць толькі ў адной спадніцы, усе апошнія іх мяняюць, а найбольш — мястэчкі і вёскі. Жыхары гэтых апошніх населеных пунктаў чамусьці думаюць, што з адной спадніцай у Качысток ехаць не выпадае. Найвялікшая іх бяда ў тым, што спадніца не гоніцца да селяніна, а наадварот, селяніну гнацца да спадніцы.

Вось некалькі такіх рознага ўзросту бедалаг апошнім часам рашылася на інтэлектуальную, часовую эміграцыю ў той жа Качысток. Ехалі з Ізюміч-Царкоўных і Вёхнаўца-Касцельнага, моцна трымаючыся за кепска пашытыя спадніцы. Сціскалі іх у жменях таму, што вельмі не хацелі паказваць сонцу свае голыя азадкі. Што б пра іх падумалі жыхары вялікага горада, убачыўшы такую задніцу, страшна сабе ўявіць. І вось носьбіты пашытых не на меру спадніц трапілі ва ўніверсітэт. Папалі туды не ўпершыню. Жыццё прымусіла іх запісвацца на шматлікія ўніверсітэцкія курсы і здабываць чарговыя дыпломы. Праўду кажучы, дыпломаў у іх поўныя шуфляды, а карысці ад гэтага ніякай. Каб атрымаць такі дыплом, абавязкова трэба адсядзець сваё ва ўніверсітэцкай лаўцы. Абкруціўшыся ў свае вялікія андаракі, селі ў тыя жа лавачкі, як куры на градцы, і драмалі. Прачыналіся толькі тады, калі пачулі што нейкая, варожая, рука пачынае здзіраць альбо задзіраць ім іхнюю спадніцу.

— Ко, ко, Концкі прыехаў сюды з тээзай, на дадатак фальшывай, — закудахталі студэнты. — Не магло быць інакш, ён жа ж начаваў у Віснеўскага!

— Ну, што ж, дай Божа дачакацца нам сапраўднай дэмакратыі, — падводзіць вынікі інтэлектуальнай дыскусіі настаўніца.

— Нахрэн ваша дэмакратыя, тут жа адны куркі засталіся, усіх астатніх вы ўжо даўно задзяўблі, — уключаецца раптам адзіная ў гэтым куратніку голая задніца.

Пачаткова голай задніцы ніхто не прыкмячаў, таму што тая была надта шэрая і змарнелая, быццам той цень чалавека. Звярнулі на яе ўвагу толькі тады, калі пачала навязваць уласны тон акадэмічным дыскурсам.

— Хлусня, — раскудахталіся спраўкаваныя ваяводскія спадніцы. — Добра ведаем, што ў Ізюмічах-Царкоўных жывуць яшчэ качкі, шмат іх таксама ў Байнаўцы і Зельску.

— А ў нашых Дымках качак ужо няма. Адны куры. Ні качак, ні індыкоў, нават гусей там не сустрэнеш, — цвёрда стаіць на сваім голая задніца.

— Ко, ко, ко, але ж у Байнаўцы ці ў Зельску яшчэ кракаюць па-простаму, — кажа асабліва красамоўная, выдатна адукаваная спадніца. — Добра яны там маюцца. А тая іхняя мова гэта не мова, толькі дзіўная сумесь кракання, кудахтання, гагатання, балбатання і чорт ведае чаго яшчэ, — дадае ўпэўнена.

— На жаль, нашы качкі не чытаюць кніжак на качынай мове. Вядома, мова без кніжкі траціць аўтарытэт, пераходзіць у дыялект, з якога высмейваюцца, якога саромеюцца. У паслядоўнасці нацыя становіцца непісьменнай і вымірае. Калі для вас важна, каб і качкі добра сябе адчувалі ў вашым куратніку, тады не называйце, калі ласка, нашай мовы простай, — уводзіць свае ўмовы голая задніца.

Недаразуменне. Што мае наўме голая задніца, чаму абураецца? Тут жа ўсе дыпламаты, усё прыгожа, па стандартах.

— Вось, вы, куры, нават і не ўяўляеце, якую вялікую крыўду робіце качкам, гусям ці індыкам. Вы з гэтым стаўленнем нарадзіліся, высмакталі яго з матчыным малаком. Такія вашы нормы, ваш добры тон, ваша дэмакратыя, — працягвае бесспадніčніца.

І тут усе ваяводскія спадніцы з перапалохам разбягаюцца па ўласных курыных дварах.

На чарговыя заняткі ім трэба падабраць нейкую казку для публічнай прэзентацыі.

Голая задніца знайшла архіўныя запісы арыгінальных казак з яе родных Дымкаў. Справа ў тым, што хаця Дымкі знаходзяцца ў Курыстане, мова казак — качыная.

— Спадарыня прафесарка, ці дазволіце мне правесці прэзентацыю казак па-качынаму? — просіць ласкава голая задніца.

Настаўніца як мага найдалікатней дае зразумець, што казкі могуць быць качынымі, але прэзентаваць іх трэба на курынай мове.

На сярэдзіну залы выходзіць жыхарка Ізюміч-Царкоўных. На курынай мове распавядае легенду пра ўзнікненне сваёй вёскі. Яе нервовы позірк прыляпляецца да голай задніцы. Чаму яна не глядзіць на ваяводскіх спадніц?

Была царква, няма царквы, была царква, няма царквы, а пра што дэталёва расказвае тая яе легенда, зразумець немагчыма.

— Мабыць, лягчэй вам было б сказаць гэтую легенду на вашай, роднай мове? — пытае жанчыну голая задніца.

— Лягчэй, — адказвае тая коратка і ўпэўнена.

— Што на той конт скажа шаноўная прафесарка? — звяртаецца да настаўніцы голая задніца.

Настаўніца няўпэўнена водзіць вачыма па сабраных у зале ваяводскіх спадніцах. Баіцца, што спадніцы адмоўна ўспрымуць ідэю ўвядзення качынай мовы на занятках.

Голая задніца, пакарыстаўшыся хвілінай слабасці настаўніцы, рвецца на сярэдзіну залы са сваімі дымкаўскімі казкамі на роднай, качынай мове. Раптам у слова ўваходзіць ёй жыхарка Ізюміч-Царкоўных

— Мая легенда не качыная, — крычыць трымаючыся за сваю спадніцу. — Яна не на качынай мове, і не на гусінай. Мы не качкі, а нават і не гусі.

— Хто ты тады? — думае сабе голая задніца. — Напэўна, марсіянка, а твая мова марсіянская. — З гэтай тэорыяй мела яна магчымасць пазнаёміцца ў родных Дымках і на сур'ёзнай навуковай канферэнцыі ў сталіцы Курыстана.

Голай задніцы стала сумнавата. Качка, якая саромеецца качынай мовы, з'яўляецца сорамам для качак, якія качынай мовы не саромяцца. Гэта таксама пацвярджэнне кульгавай дэмакратыі Курыстана. Узяўшы глыбокі ўдых, голая задніца вярнулася да толькі што пачатых аповедаў качыных казак па-качынаму. З гэтых казак слухачы маглі даведацца, што калісь па-качынаму гаварылі нават вясковыя куры. Ніхто не хаваўся ў шытыя не на меру спадніцы. Усе лёгка і свабодна свяцілі голымі азадкамі і нікога гэта не абурала.

Нечакана качыную прэзентацыю голай задніцы ўзнагародзілі гучнымі апладысментамі і паслядоўна карэспандэнцыяй ад настаўніцы са словамі падзякі. Качыная мова аказалася зусім зразумелай і вельмі блізкай усім куранятам. Што больш, дазволіла забыць пра цяжар іхніх пашытых не на меру спадніц.

**Іаанна ЧАБАН**

# Калядкі-2016


Заранка

У Крынках правялі чарговае грамадскае калядаванне. Такія мерапрыемствы адбываюцца штогод у кожнай гміне, мабыць, ва ўсёй нашай краіне. Крынскія і суседнія, шудзялаўскія, калядаванні наладзілі ў той жа самы дзень. Па гэтай прычыне на крынскай вечарыне прысутнічала двух ксяндзоў і ніводнага бацюшкі, якім больш прываблівымі сталі менавіта калядаванні ў Шудзялаве. Канешне, жаль, таму што і так даволі сціплы крынскі праваслаўны статак без пастыра рабіў уражанне яшчэ сціплейшага. Прысутнасць праваслаўных калядных традыцый на сцэне Гміннага асяродка культуры ў Крынках была амаль незаметнай. Дзеткі з музычных кружкоў, якімі кіруюць музыкантікі з Гародні, не выканалі ніводнай усходняй калядной мелодыі. Надта гэта дзіўнае, таму што сярод выступаючых пераважалі праваслаўныя школьнікі. Ну што ж, відавочна бліжэй ім па душы да польскай „Люляй жэ, Езуню” ці ангельскай „Джынгл бэлс”. Толькі па-польску спявалі таксама дарослыя крынчане з хору „Погодна есень”, калектыву „Лётосы” і славутага калектыву „Экзіт”. Усходнюю справу выратавала дзіцячая фольк-група „Заранка”. Цяпер стала яна зусім дзіцячай. Заранічныя гімназісткі пераключыліся на сольныя, музычныя кар'еры, зусім небеларускага жанру. Трэба спадзявацца, што беларускія песні, вывучаныя ў „Заранцы” ўсё-такі ажывуць у іншых перыядах іхняга жыцця. Такім чынам у калектыве „Заранка” прыгожых гімназістак заступілі малышы. Трэба адзначыць, што 99 працэнтаў удзельнікаў „Заранкі” — каталікі. Сярод іх апынуўся нават мясцовы міністрант (прыслужнік у касцёле). Вялікі паклон у бок бацькоў гэтых жа дзяцей, якія кожны тыдзень аддаюць некалькі хвілін свайго часу, каб прывезці малечаў на рэпетыцыі і пасля адвезці назад дахаты. Мала таго, яны дапамагаюць ім таксама ў вывучэнні беларускіх тэкстаў. На каляднай вечарыне „Заранка” запрэзентавала шэсць нумароў — тры беларускія, два польскія і адзін расейскі. Надзвычай жывая, шматмоўная грамадка нават і не думала саромецца свайго „на ўсход ад Віслы” рэпертуару. Для іх гэта ўжо нармальнае, звычайнае і зусім нескладанае.

Цікавай часткай каляднай вечарыны было кабарэ. Тры салідныя жанчыны абмяркоўваюць сваё апошняе Божае Нараджэнне багатае на вандроўкі па беластоцкіх гандлёвых цэнтрах, пасядзелкі за надта поўнымі міскамі і кілішкамі, але беднае ў плане традыцыі. Ні адзін каляднік не заглянуў у іх крынскія хаты. І вось, нягледзячы на разнародныя музычныя схільнасці, салідныя жанчыны гуртуюцца з не менш салідными мужчынамі. Пераапранаюцца за Казу, Смерць, Гэрода, Шляхціца і Селяніна ды выходзяць з віншаваннямі на Крынкі. Трывожыць іх толькі адно: ці нехта ўпусціць іх у сваю хату? У кабарэ гулялі працаўнікі і сімпатыкі Гміннага асяродка культуры ў Крынках. Да самых шчырых і адданых яго сімпатыкаў безумоўна належыць сужонства Бараноўскіх. Сцэнічная дэбютантка Гражына Бараноўская выявіла небывалы акцёрскі талент і гатоўнасць смяяцца з самой сябе.

— Гэта я ўгаварыў жонку, — прызнаецца пасля паспяховай прэм'еры адзін з артыстаў кабарэ, яе муж Марыян Бараноўскі. — Штодзень Гражына зусім іншая, вельмі сціплая і баязлівая жанчына. Для нас гэта выдатная гульня. Мабыць, і асноўны сэнс жыцця ў тым, каб як найлепш у ім пагуляць.

Але не адным кабарэ жыве спадарства Бараноўскіх. Традыцыйна ўжо дапамагаюць яны ў арганізацыі і правядзенні сёлетніх зімовых канікул у тым жа доме культуры. Робяць гэта бясплатна, ад сэрца, бо, як кажа спадар Марыян, грошы гэта далёка не ўсё, што патрэбнае чалавеку.

Быў таксама калядны салодкі пачастунак. Няважна, што так сціплы, што амаль сімвалічны, важнае, што абсалютна ўсім ад шчырага сэрца дырэктар дома культуры Альжбеты Чарэмхі і яе адданых сяброў.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


фота Ганны Кандрацюк

# Зімовыя гульні і экзатычныя падарожжы

Каток «Белы орлік» — самае гарачае месца ў Гайнаўцы. Нідзе няма столькі смеху, радасці, энергіі.

Кожны, хто не змог паехаць у замежную экскурсію, мог праверыць свае спартовыя таленты на «гарачым» катку пры Комплексе школ № 1 у Гайнаўцы. Яшчэ да зімовых канікулаў вучняў салідна падрыхтавалі. Вось 12 студзеня г.г. у школу завіталі паліцыянты... з добрымі намерамі! Яны правялі лекцыі на тэму як бяспечна паводзіць сябе на катку, гаварылі пра асцярожнасць і заахвочвалі «не пакідаць» галоўку ў хаце пад пярынай. Для найменш спрактыкаваных прапанаваліся курсы язды на каньках. Прысмак зімовага «шаленства» не пакідаў думак і мар...

Сучасныя дзеці абажаюць спартовыя гульні і замежныя экскурсіі. Менавіта ў час нашай сустрэчы ў КШ № 1 усе хацелі расказаць пра свае падарожжы. У модзе якраз была Грэцыя, Святая Зямля, Рым, Памесце Дзеда Мароза ў Беларусі. Што астаецца ад такой паездкі? Гэта дапамагае ў вучобе. Нам хочацца вучыцца замежным мовам і чытаць кніжкі. Іншыя, як другакласнік Віктар Вапа, удасканальваюць тактыку гульні ў шахматы.

Нядаўна Віктар стаў лаўрэатам другога месца ў Павятовым школьна-спартовым калядным турніры шахматыстаў. Пра яго поспех абвяшчае школьная інтэрнэтная старонка! Іншыя сябры з беларускай групы рыхтуюцца да конкурсу «Роднае слова». На ўроках, якія вядзе спадарыня Аліна Новік, дзеці знаёмяцца з асновамі граматы, чытаюць легенды роднай зямлі, размаўляюць пра Белавежскую пушчу і народныя абрады. Мараць, каб у будучыні прыступіць да прадметнага конкурсу па беларускай мове, каб такім выклікам зраўняцца з найлепшымі. Шанц ёсць. Якраз з новага навучальнага года ў школе падвоіўся лік энтузіястаў беларускай мовы. Палова з іх (усіх тут 32 асобы) гэта першакласнікі і другакласнікі.

Зараз у час зімовых канікулаў яны яшчэ мацней пасябравалі, гуляючы разам на прышкольным катку.

**ЗОРКА**

# Вершы пра дарастанне

З Уляй Марчук сябруем ад «заўсёды». Ад пачатку яна непаўторная. Раней Уля пісала такія вершы, каб рассмяшыць сяброў. Уля заўсёды ведала як зразумець настрой, як добра наладзіць гульню і файную атмасферу. У гімназіі — не магло быць іначай — яе вершы сталі больш асабістымі. Тут каханне, страх, адчуванне змен. Усё як у жыцці. Нам прыемна, калі дзеці дарастаюць з нашай старонкай. І яшчэ, калі свае пачуцці пераліваюць «на паперу» на роднай мове. Гэта якраз тое! Віншуем з адвагай і густоўнай падборкай!

Зорка



**Уршуля МАРЧУК**
**Гімназія ў Нараўцы**

## Вочы

*Гляджу.*
*Бачу штосьці неверагоднае.*
*Не магу адарваць зроку.*
*Блакітная глыбіня ўцягвае мяне,*
*усё больш і больш.*
*Гэта твае вочы.*
*Патанаю ў іх.*
*Увесь час гляджу*
*і не магу наглядзецца.*
*З кожнай хвілінай звязваюся з імі*
*яшчэ мацней.*
*Улюбляюся ў іх.*
*Яны такія праўдзівыя,*
*шчырыя,*
*без маны,*
*ніколі не змяняюцца.*
*Застануцца на ўсё жыццё.*
*Так, як я з табою.*

*Міра ЛУКША*

## Зімовы мак

*Першы, другі, трэці...*
*У трэцім дзірачка свеціць?..*
*Чацвёрты і пяты*
*ў рукавічцы Наты*
*пальчыкі схаваны.*
*А трэці — парваны?*
*Нітку, іголку трэба ўзяць,*
*дзірачкі пазашываць.*
*На рукавічцы зацвіў мак?*
*Як гэта так?*
*Рукавічка зялёная,*
*нітачка чырвоная.*
*Нашыла чырвоную латку*
*на трэці свой пальчык Натка!*

# УВАГА КОНКУРС! № 07-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 21 лютага 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**От бабуля важна села**
**І глядзіць навокал смела.**
**У зямлю схавала лапаць.**
**Як зачэпіш —**
**будзеш плакаць.**
**Гэта злосная бабуля**
**называецца**
**Ц.....**
**У бабулі родны брат**
**Ласкавейшы быццам,**
**і да слёз давесці рад,**
**Так, як і сястрыца.**
**Сам сабе наўме панок,**
**А працей сказаць**
**Ч.....**

**(Рыгор Барадулін)**

# Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 3-16: зіма, вясна, лета, восень. Узнагароды, кубачкі з беларускім узорам, выйгралі Габрыела Красько і Марыя Варанчук з Арэшкава. Віншуем!**




*Міра ЛУКША*

## Дуб

*Ой, дубе, дубе,*
*уладар перуновы*
*паламаў на табе*
*вогненны падковы.*
*Апошняе лісце*
*ў маі распускаеш,*
*жалуды на голлі*
*гадуеш-трымаеш.*
*Сямсот гадоў убачыш,*
*святла й змроку сыне,*
*калі будзе іначай,*
*ляжаш, ды не згінеш*
*тапор паламаўшы*
*на крэпкай дубіне,*
*як вой непакорны*
*з галавой пад небам.*
*У голад накорміш*
*жалудовым хлебам.*
*Быў ты першым дрэвам,*
*што пасля патопу*
*голля свайго спевам*
*высушыў макроту.*
*А іскру найпершу*
*скрасалі агнёву*
*галінкі расцершы*
*ліпы і дубовы.*
*Па-над сінім морам*
*на дубе сядалі*
*тры галубкі, хорам*
*свет запланавалі.*
*Расцем, не старэм,*
*расці, дубе, з намі,*
*мы зямлю засеем*
*тваімі жалудамі.*

# Васілінка-Васілёк!



У апошнія гады назіраем шмат сумных недарэчнасцей. Для дзяцей з беларускіх вёсак і мястэчак лягчэй выказацца на англійскай мове, чым на беларускай. Быццам ніхто не разумеў, што гэта мова продкаў, наша душа. Намнога лягчэй падрыхтаваць сцэнку ці музычна-паэтычны мантаж на англійскай, чым на беларускай мове. Яна цікавая ўсім, пасля пра гэта гавораць не толькі ў школе, але і ў хаце, на вуліцы…

На шчасце ёсць адступленні ад гэтай з'явы. Прыклад ідзе з Беластока. Тут на ўрокі беларускай мовы запісваюцца дзеці з польскіх сем'яў, якія хочуць хадзіць на беларускі тэатр.

Гульня ў тэатр спрыяе навучанню беларускай мовы ў Гарадку. Мы пабывалі на рэпетыцыі ў шостым класе ПШ. Пад вокам настаўніцы Альжбеты Раманчук нашы сябры ставілі сцэнку «Васілінка-Васілёк». Сюжэт прыдумалі разам. Ён апавядае пра неахвоту вучняў адрабляць хатнія ўрокі. Што з гэтага атрымалася? Шмат смеху і дадатковай працы. Простая гумарыстычная сцэнка патрабавала неверагодна шмат працы. Дзяўчаты з фантазіяй прыдумалі сабе касцюмы і рэквізіты. Гэтага аднак было мала, каб спрацавала пастаноўка. Самая цяжкая справа гэта паставіць правільны націск. На пачатку моладзь гаварыла так, быццам упершыню пачула беларускую мову…

Выступленне было запланаванае на Дзень настаўніка. Нашы сябры старанна паўтаралі дыялогі, каб у час выступлення не збіцца з панталыку.

Ім удалося рассмяшыць публіку і выклікаць жывыя каментары. А галоўнае, іх аўтарскі спектакль на беларускай мове прагучаў на агульнашкольным свяце.

*Зорка, фота Ганны Кандрацюк*

## Вершы Віктара Шведа



### Разбудзі сабаку

Будзіць жонка ўночы
Мужа: — Падымацца!
Чую, нехта хоча
Да нас уламацца!

— Дык што мне рабіць?
Азваўся небарака.
— Ідзі і разбудзі
Нашага сабаку.

### Хачу зрабіць неспадзяванку

Сустрэліся ля хаты
Сябры селяніны:
— Ці едзеш ты на святы
І да якой мясціны?

— Яшчэ мне невядома,
Мой мілы дружа, Янка,
Хачу сабе самому
Зрабіць неспадзяванку.

## Польска-беларуская крыжаванка № 07-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 3:**

Дар, выспа, дрэва, парта, лак, лістоўніца, ціс, акно, ял, вяз. Ява, ліс, спіс, пас, партал, даўно, но, Дэлі, авацыя, рака.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Габрыела Красько**, **Вікторыя Баркоўская**, **Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Барташ Ламашкевіч**, **Рафал Новік**, **Магдалена Стоцкая** з Нараўкі, **Зузанна Асіняк**, **Оля Сідарук**, **Наталля Ляўчук** з Новага Корніна, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Кінга Бах** з Шудзялава, **Рафал Шумінскі**, **Алівія Кузьміцкая** з Бабік, **Ігар Кардаш** з Нарвы. Віншуем!




**Наталля АЛЕКСЯЮК**
**Тапаляны, ПШ у Міхалове**

## Гульні

**Патанцуйце, пагуляйце,**
**І весела паспявайце.**
**Іграй нам, іграй, аркестр!**
**Калі аркестр іграе,**
**Кожны вясёлую міну мае,**
**Маладыя і старыя**
**Спяваюць песні цудоўныя.**
**Пійце, ежце! Не шкадуйце!**
**Зараз пост зноў будзе,**
**Тады з чыстым сэрцам**
**Свята прымайце.**

# На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.




Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка VIII

Вясна 1945-га была таксама часам смерці... Стары Бухгольц не думаў інакш, усё часцей хапаўся за сэрца... Здавалася, якогась дня — не ўспее і слова сказаць!.. Толькі б не налякаць Паўля!.. Ён ужо в-е-д-а-ў, ш-т-о з ім зрабіць!.. Трэба спяшацца, савецкія войскі амаль пад Берлінам. Сталі на Одэры, адтуль рукой падаць!.. З захаду ідуць Англія, Амерыка, Францыя, ад чэрвеня 1944... Прыйшоў час і на Германію!.. Хто т-у-т першы з'явіцца?..

* * *

— Донька!.. — сказаў Nadine Франц Бухгольц. — Я, как видишь, старый доходяга, сердце останавливается! Мне тут всего — день, второй!.. Ты уже прости, скрывал я от тебя, долго!.. Ещё зимой написал мне иносказательно наш Эдуард из Осло: да, нет ни тётки Элизы, ни Курта! Их расстреляли, думаю, из-за партизан! Что и как — может это будет и вечной тайной! Немцы расстреляли своих же немцев!.. Такая правда, Надин, пока мы не увидим Эдуарда, а увидим ли когда?.. Но, всё по порядку!..

— Nadine, у меня нет другого выхода! Он единственный! И он зависит от тебя!.. Я знаю, я прошу почти н-е-м-ы-с-л-и-м-о-г-о! Но другого тут н-е-т, вовсе нет!..

— Возьми к себе Пауля, Надин!.. Да-да, ты хорошо услышала! Я п-р-о-ш-у тебя, доченька ты в-о-зь-м-и к себе Пауля! У нас больше никого нет, во всём свете!.. Есть Эдуард, единственный, но что он к ребёнку? Да, он приедет, но чтобы тут в хозяйстве помочь!.. Да-да, я не посоветовался с тобой, я знаю! Но я тебя не неволю! Война вот-вот кончится, а я уже не жилец!.. Откажешь — не буду сердиться, п-о-й-м-у, ибо я прошу почти нереального! Ну, куда мне Пауля? В сиротский дом только?!. Я не неволю тебя, но — мне бы на колени стать, а не смогу! — с-м-и-л-у-й-с-я!.. Он только т-е-б-я и признаёт, Nadine!.. И беда-то, что времени нет откладывать! Я могу и завтрашнего утра не дожить! В этот вечер ты должна и решить — не сможешь — немцам сдай, или англичанам! Это секрет наш, Nadine, т-а-й-н-а! Никому об этом ни слова! Эдуарда жду — его только в это посвящу, он человек святой, как ты! Поможет нам в хозяйстве!..

Послушай меня, план такой, у меня все бумаги есть, нотариальные!.. Помоги — ты Пауля любишь — мне это видно, отцу-деду этого-ль не увидеть — не отметить?!.

Так вот — Эдуард займётся хозяйством; при мне и без меня; я и пишу — я, такой-то — такому-то передаю, из-за моей немощи. Временное управление моей фермой, которая остаётся моей собственностью до времени решения о ней иным образом... Это от нотариуса... Это явное дело... Для Эдуарда!..

Есть и т-а-й-н-а, касающаяся тебя, Nadine, если ты примешь это!.. Это тоже нотариус!.. Войне конец через месяц-два.. И Курт тебе советовал, и хлопцы французы — знаю — зовут тебя во Францию; дом твой польский в развалинах — ты в Шампанию едь, французы ведь — народ хороший! Тебе и от германцев надо отдохнуть!..

— Согласишься, есть для тебя бумага, секретная, что для властей тут будет английских-американских-французских! Тут я пишу, т-а-к н-а-д-о! — «сим удостоверяю, что Paul Viniarsky, рождённый 28 декабря 1942 года в Totensen bei Hamburg, родился от польских граждан Nadine und Thomas», подписи, печати... Это для выезда, какой англичанин будет всё, в суматохе, проверять? Бумага есть документ, ты её и предъявишь. Другое — для тебя отдельно: так, мол, и так — Nadine Viniarsky, рождённая 18 августа 1923 года, дочь Максима и Веры, полька, из-под польского города Белостока, была направлена немецкими властями на работы в моей ферме Totensen bei Hamburg с 31 марта 1942 года по сегодняшний день», подписи, печати...

— И совсем секретное, для тебя, на п-о-т-о-м, через год-пять, больше-раньше, когда решишь, спишешься, где будешь — с нашим Эдуардом — он обо всём будет знать тут: завещание: всё предписано, с домами, я — такой-то — завещаю в навечную собственность в-с-ё моё имение, с домом, устройством, с живым и мёртвым инвентарём, земельными угодьями, с банковским гамбургским счётом для Nadine Viniarsky, даты, и её сына Paul Viniarsky, даты, и всё моё, документальное...

— После войны — всё это пригодиться, кому же мне это оставить?!. Захочешь потом — сюда вернёшься или продашь!.. Вот, столько на сердце твоё, р-е-ш-а-й!.. Откажешься — не осуджу, п-о-й-м-у! Пауля властям отдашь, бумаги ненужные — сожжешь, свое — про работу здесь — оставишь!..

— Тебе, Nadine, поклон за всё — до земли!.. Да только, видишь, какой я, и поклониться мне трудно!.. Ты меня тут в нашей общей могиле и похоронишь, с м-о-и-м-и!.. Не беспокойся — пастора найдёшь — позовёшь — хорошо, нет — нет!.. Сама — по-православному спой мне «Вечную память!», я это ещё от матушки Волги запамятствовал! У вас и похороны — величественные, не только венцы, крещения!..

Nadine заплакала... — Не з-за грошай я!.. Яны — што мне?!. Толькі я Паўля в-а-м бы аставіла, будзь інакш я б яго і без дакументаў вывезла, герр Бухгольц!.. Якія інтэрнаты, сірацінцы?!. Ён тут праз дзень умрэ!!! Не плачце — ён мне родны стаў!.. За вас, за фраў Грэтхен, Шарлоту, за Курта — які, я ж ведала, кахаў мяне! За Раждзаство Хрыстова, калі вы мяне тады абагрэлі-прыюцілі!.. Не плачце!!! Выхаваю, у школу спецыяльную дам, адзену, абую, дзе б я ні была!!! Во, бачыце, і ён плача, думае — што ў нас за бяда!!! — Успакойся, Паўль, успакойся, ты з дзедам т-а-к расхліпаліся, усё добра, усё добра, на, паеш, мёду хочаш? Пчолкі нарабілі, бачыш?!. Ну, ціхенька, мільенькі!.. Ну, мы ўжо не плачам!.. Чуеш?..

— Nadine. Дай я тебя поцелую, доченька ты моя, святая!.. Я ко своим пойду! Скажу Грэтхен и Шарлоте, что малыш наш — в чудесных руках! В м-а-т-е-р-и-н-с-к-и-х! Они о-б-р-а-д-у-ю-т-с-я!.. Они тебя же — как любили!.. Счастья тебе, дочушка!.. Ты с надеждой живи! Ты ведь сама Н-а-д-е-ж-д-а!.. Дай, перекрещу вас з Паулем, как у православных на Волге бывало!..

* * *

Праз месяц прыехаў Эдуард, мілы і сардэчны чалавек...Увайшоў ва ўсе паўіннасці... Паўль адразу прыліп да яго, як да дзеда...

Герр Бухгольц уміраў спакойна... З Тэтэнзен паклікалі пастара, справілі памінкі... Пахавалі ў вялікай магіле...

* * *

Пачалася вясна... Якое цуда! Ляцяць самалёты, гудзяць танкі, самаходы, а ёй — хоць бы хны! Цвіце, зелянее, п-а-х-н-е!..

Недзе пад канец дня, у красавіку, 1945, на ферму заехалі англічане... — To home! Zu Hause! Girls and boys!.. — закрычалі!.. «Ту хоўм — цу хаўзе?.. Д-з-е ён, гэты «хоўм-хаўзе»?.. У маёй Пушчы — усё спалена! Няма ў мяне «Хаўзе»!.. Не-не! Не хачу пажарышчаў, якія дзікімі карчамі ўжо зараслі! Хачу ў сэрцы захаваць тое юнацкае! Дом даўні! Сваіх мілых! Мне тутэйшай вайны хваціла!!! У мяне там — нікога няма!!!

Герр Эдуард паехаў у Гамбург на біржу працы наймаць новых работнікаў... Рускія і беларусы — едуць з бельгійцамі, трохі потым — да сябе не вяртаюцца, баяцца — іх забяруць пад Берлінам у савецкую армію... Да ад'езду будуць тут і далей працаваць! Герр Эдуард абрадаваўся!.. Яны добрыя працаўнікі!..

Надзін п-р-а-ш-ч-а-л-а-с-я!.. Усе плакалі!.. Сям'ёй сталі!.. І вайна, аказваецца, р-а-д-н-і-ць!.. Цікава! Яна чакала пытанняў — з Паўлем?.. Ніхто і слова не сказаў, бо ш-т-о пытаць: што д-з-і-ц-я бярэш?!. — у святой дзяўчыны — што ч-у-ж-о-м-у хлопчыку м-а-ц-і с-т-а-л-а?..

У Гамбургу англічане спыталі: — Why not in Poland? Чаму не?... — А яна, гэтая «май Поўлэнд» — яшчэ ёсць, сэр? Растаптаная, расстраляная, павешаная?.. І якая яна цяпер, Пушча мая Белавежская — зноў савецкая, ці польская?.. Дзе цяпер і якая граніца?.. Мае ўсе — ужо ў зямлі, на дрэве — як яблыкі — віселі, павешаныя!..

— Вы запішыце мяне, з с-ы-н-к-о-м малышом гэтым, кантужаным ад бомбаў, ён і гаварыць — не гаворыць, ручнкамі машэць!.. У «displaced persons» — «дзі-пі-сі» залічыце!.. Я, вось, з хлопцамі-французамі — што разам тры гады працавалі на гаспадарцы ў добрага чалавека, паеду, яны мяне ў вінаграднікі клічуць!.. Там і цяплей, і цішэй!.. Прашу вас, вайны мне хваціла, сэр!..

— Ну, вось, Nadine and Paul Viniarsky, Polish Nation, t-o F-r-a-n-c-e, please, праходзьце, там доктар — хлопчыка паглядзіць, ён, якраз у нас — «з польскіх», па-свойму і раскажаце!.. Там вас і накормяць!.. Ну, будзь здароў, малыш! Папраўляйся, гаварыць пачні!.. Наступных прашу, а-а — гэта вы разам, французы, што ж — «bon voyage, monsieurs!"... Памажыце жанчыне з хлопчыкам, там багаж!..

* * *

Epernay sur Marne, недалёка ад Рэймс... Цяплынь!.. Зеляносць!.. В-і-н-а-г-р-а-д-н-і-к-і!.. Благадаць Спасава!.. Людзі мілыя!.. Адсюль Марсель і Антуан былі з Nadine ў Тэтэнзен... Яна з Паўлем і жыве ў доме сястры Антуана, Ніколь, муж якой загінуў у Нармандыі... Сынок у яе, Жан-Эт'ен, кампанія Паўлю, амаль аднагодкі... Ціхасць, спакойная праца ў вінніцы... Не верыцца, што і тут магла быць вайна!.. Усё стаіць, расце, цвіце!..

— Mademoiselle Nadine, bonjour!.. Cette monsieur voudrais parler a vous!.. — аклікнуў яе малы Жан-Эт'ен, які прыбег з Паўлем...

— Т-а-м-а-ш-к-а!.. Царыца Багародзіца!.. Ж-ы-в-ы!.. Вады мне дай, я с-я-д-у!..

— Я ж табе дома, у Польшчы, сказаў: знайду хоць праз пяцьдзясят гадоў!.. Раней выйшла, на шчасце!.. Я ў Гамбургу шукаў, Францыя — сказалі. У Тэтэнзен быў! Герр Эдуард сказаў дзе ты, пісьмо тваё мае, вельмі рады!.. Ён — спраўляецца, рабочых набраў... Пра Паўля сказаў, ад шчасця плакаў!.. Значыць — сын у цябе — у н-а-с!.. Вось, г-э-т-ы, беленькі?.. А мяне п-р-ы-м-е-ш?..

(канец)

# НАСТАЎНІЦКІ ЛЁС

## Размова з Мікалаем ВАРАНЕЦКІМ, настаўнікам-пенсіянерам з Альхоўкі.



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**— Нядаўна Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы з нагоды Твайго сямідзесяцігадовага юбілею выдаў зборнічак Тваіх вершаў „Жывуць песні". Калі Ты стаў пісаць?**

— У спелым узросце.

**— А не ў дзяцінстве, як гэта часта бывае?**

— Не. Ужо будучы дарослым я пабачыў у „Ніве", што пішуць розныя людзі, часта з невялікай адукацыяй. Я тады сама штудзіраваў завочна. Дык падумаў — а чаму ж мне не спрабаваць, калі ў мяне ёсць крыху больш адукацыі. І так я ўзяўся за пяро.

**— Але ўсё ж такі хіба былі ў Цябе раней нейкія захапленні паэзіяй, мабыць падабаліся Табе вершы нейкіх паэтаў?**

— Ну, падабаліся мне вершы рускіх класікаў, асабліва Пушкіна і Лермантава.

**— І прабаваў Ты можа пісаць па-руску або па-польску?**

— Не, стаў пісаць толькі па-беларуску. Беларуская мова мне родная, да таго ж я, вучыўшыся ў ліцэі, разам з тваім аднакласнікам Мішам Лукшам на працягу трох гадоў жыў у Гайнаўцы на кватэры ў Васіля Дзуна; гэта быў свядомы беларус. Васіль Дзун чытаў многа беларускай літаратуры, меў многа кніжак. І я нешта таксама браў з ягоных кніжак і таксама чытаў.

**— А што Ты можаш сказаць пра самога Васіля Дзуна. Ён зараз крыху прызабыты, а гэта ж быў чалавек, які шмат працаваў для беларускай справы...**

— Я калісь быў напісаў пра яго ў „Ніву" і то даволі шмат.

**— Гэта было калісь, але ўсё ж такі варта пра такога чалавека прыгадаць яшчэ раз.**

— Васіль Дзун пасля вайны быў загадчыкам школы ў Шымках, а пасля пераехаў у Гайнаўку, дзе купіў пляц з хатаю і ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы навучаў біялогіі. Але ў той час, калі я ў яго жыў, то ён ужо быў на пенсіі. Ён тады дзейнічаў у Беларускім грамадска-культурным таварыстве, быў членам праўлення гайнаўскага аддзела БГКТ.

**— Ці ён, дзейнічаючы ў Таварыстве, прабаваў прыцягнуць вас да беларускіх спраў, наведваць хаця б беларускія мерапрыемствы?**

— Ён сам хадзіў на мерапрыемствы, яго запрашалі. А мы былі вучнямі, мелі па шаснаццаць гадоў і ў нас былі іншыя захапленні.

**— Гэта сама добры час для ўводу ў дарослае жыццё. А не забіраў ён вас на тыя мерапрыемствы?**

— Не. Але ён дома гаварыў на сваёй беларускай гаворцы, напрыклад: „Ён і яна з'елі разам барана". „Нашы едуць, вашы йдуць, нашы вашых падвязуць". Мы вось мелі нагоду знаёміцца ў яго з беларускай літаратурнай мовай.

**— А ягоная жонка адкуль была: таксама „з-за рэчкі"?**

— Ягоная жонка была з Сібіры. Сям'я Дзунаў была ў бежанстве і калі назад вярталіся, то і ягоная жонка прыехала. Яна прыехала як жонка Васілёвага старэйшага брата. Але той брат памёр маладым і тады Васіль ажаніўся з братавай удавіцай.

**— У якіх гадах жыў Васіль Дзун?**

— Ён быў недзе з 1898 года, а памёр бадай у 1974 годзе; жыў ён каля сямідзесяці пяці гадоў.

**— Ці ён расказваў вам пра бежанства?**

— Расказваў мала. Вядома, што ягоная сям'я ў бежанстве жыла ў горадзе Барнаул, дзе два гады ён быў студэнтам, наведваў політэхнічны інстытут. Раней, у царскі час, ён быў у Настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы.

**— А як гэта сталася, што ён у Алтаі наведваў палітэхніку, а тут, у Гайнаўцы, навучаў біялогіі, зусім не політэхнічнаму прадмету?**

— Гэтага то я не ведаю. Ведаю, што пры санацыі ён быў дзеячам Грамады і, бадай, КПЗБ.

**— У Шымках?**

— У Шымках.

**— А ягоная жонка то была з бежанцаў, ці з Сібіры?**

— Я чуў, што была сібірачкай.

**— Але ўжо гаварыла па-нашаму?**

— Па-нашаму.

**— А ці ён расказваў нешта пра Другую сусветную вайну, як тут было, напрыклад, у Шымках?**

— Расказваў, што немцы некалькі разоў клікалі яго на допыты ў Ялоўку. І тады ён апранаў падвойныя тоўстыя нагавіцы, на выпадак, калі б білі.

**— Але такое штосьь здарылася?**

— Не. Але пыталі, чаму ён пры санацыі належаў да беларускіх арганізацый. То ён адказаў немцу, што ён беларус-патрыёт. А немец на тое: „Ты ідыёт".

**— А на якой мове яны размаўлялі? Можа Дзун умеў па-нямецку?**

— Не, не ўмеў. Але мы яго не пыталі, на якой мове ён тады размаўляў з немцамі.

**— А пры санацыі ён хіба не вучыў, абрабляў зямлю... Хіба таксама і ў вайну... Ці мо ў вайну была там, у Шымках, нейкая беларуская школа?**

— Не ведаю. Гаварыў, што з Шымкаў было ў Ялоўцы шмат паліцыянтаў.

**— А ў якім годзе і чаму ён пераехаў з Шымкаў у Гайнаўку? Чаму ён пакінуў зямлю і пераехаў у горад?**

— Не ведаю. Мы тады былі вучнямі і нас такія справы не цікавілі. Мы часам падпытвалі яго матэматыкі, то ён нам тлумачыў. І старэйшыя, што вучыліся, таксама прыходзілі да яго за парадамі.

**— А як вы да яго трапілі на кватэру?**

— Мая цётка, што жыла ў Альхоўцы, была з Шымкаў. Яна ведала Васіля Дзуна і нас да яго накіравала.

**— І колькі вас у яго кватаравалася?**

— Спярша было нас двух, а пасля яшчэ мой дваюрадны брат Галабурда Генік далучыўся. (Пакойны ўжо Яўген Галабурда быў вядомым трэнерам вядучых беластоцкіх баскетбольных каманд — А. В.)

**— Ці вы знімалі ў Васіля Дзуна кватэру на працягу ўсяго навучальнага года, ці мо нейкі час даязджалі?**

— Мы даязджалі поездам у верасні ды ў маі-чэрвені. З Альхоўкі на станцыю Нараўка веласіпедамі.

**— І многа вас з Альхоўкі так ездзіла на чыгуначную станцыю Нараўка?**

— Шмат нас было і ехалі найчасцей усе разам.

**— Ты скончыў ліцэй, а пасля яго то адразу пайшоў вучыцца ў Настаўніцкую студыю?**

— Пасля матуры я стаў на працу ў Ляўкове. Тады Івацік сама пайшоў на пенсію, то я стаў на Івацікава месца. Было гэта ў 1963 годзе.

**— Калі я вучыўся ў Ляўкове, то Іваціка яшчэ там не было...**

— Ён тады навучаў у чатырохгодцы ў Ахрымах. А пасля перайшоў у Ляўкова.

**— Што Цябе падштурхнула падацца акурат у настаўніцкую студыю?**

— Школьны інспектар Міхал Сабешук загадаў мне вучыцца. Ён быў маім першым настаўнікам. Ён тры гады ў Альхоўцы працаваў, а з Альхоўкі перайшоў у аддзел асветы ў Гайнаўцы. Ён ведаў мяне, а я яго.

**— І ён пра Цябе дбаў. А Ты выбраў рускую філалогію, бо...**

— Мне руская мова была блізкая, бо мой бацька ўмеў па-руску чытаць і пісаць.

**— І пэўна нейкія рускія кніжкі меў...**

— Было некалькі рускіх кніжак. І пазней мне было лёгка вучыцца рускай мове.

**— Ты два гады правёў штудзіруючы ў Беластоку. А пасля куды лёс Цябе кінуў?**

— Зноў у Ляўкова, на два гады.

**— А дзе Ты ў Ляўкове жыў, у каго?**

— Першую зіму жыў у Марціновічаў, а другую ў Косці Рэента. А пасля настаўніцкай студыі то жыў у Новым Ляўкове, бо ў Старым Ляўкове сталі будаваць керамічны завод і кватэры падаражалі. То мне Васіль Целушэцкі настроіў Баканача ў Новым Ляўкове і два гады я ў яго жыў. (Пакойны ўжо Васіль Целушэцкі быў тады дырэктарам ляўкоўскай школы — А. В.)

**— Увесь школьны год Ты знімаў кватэры?**

— Толькі ў зімовы сезон, а як было цяплей, то я даязджаў з Альхоўкі.

**— Ты яшчэ два гады пасля штудыяў працаваў у Ляўкове. А пасля што?**

— Памёр мой бацька і я рашыў вярнуцца ў школу ў Альхоўку каб адначасна памагаць маме абрабляць гаспадарку.

**— І колькі гадоў Ты працаваў у роднай Альхоўцы?**

— Шэсць гадоў, пакуль альхоўская школа працавала. А пасля сталі дзяцей давозіць у Нараўку і я стаў даязджаць на працу ў Нараўку.

**— І колькі гадоў Ты яшчэ ў Нараўцы вучыў?**

— Дваццаць адзін год.

**— І ўвесь час даязджаў у Нараўку?**

— Цэлы час. Ездзіў разам з вучнямі на школьным аўтобусе.

**— А на чым вазілі, на „Асінобусе"?**

— Спачатку на трактарным прычэпе з буданам, а пасля школа атрымала аўтобус. А пасля купіў я сабе легкавушку і на ёй езджу.

**— Ты спяваеш у „Нараўчанках". З якога часу Ты стаў выступаць на сцэне?**

— Ужо будзе тры гады.

**— А раней Ты быў звычайным гледачом... А хто Цябе спакусіў да іх?**

— Была ў Нараўцы пенсіянерская вечарына. Спявалі там песні і я стаў памагаць спяваць. Паслухалі, што добра спяваю дык запрасілі.

**— А можа дзе раней Ты спяваў? Можа ў якіх калектывах або сола?..**

— У настаўніцкай студыі спяваў у хоры.

**— І дзе давалі канцэрты?**

— Толькі ў Беластоку.

**— Часта выступалі?**

— Некалькі разоў у год. У Ляўкове мабілізаваў мяне да спявання Васіль Целушэцкі, які быў выдатным спеваком. Дадам, што ў мяне акардэон, на якім я саматужна навучыўся іграць.

**— А калі Ты вучыўся граць на акардэоне?**

— Якіх сорак гадоў таму. У Нараўцы ў школе былі акардэоны, а не было каму граць. То я сказаў дырэктару, што я на зіму вазьму акардэон і буду вучыцца граць. Ён кажа: „Бяры".

**— Сам вучыўся ці нехта падказваў як абыходзіцца з гэтай машынай?**

— Сам, са слыху. Глядзеў, як іншыя граюць і так пайшло.

**— І пайшло выдатна. Як з вершамі ці са спевам. Дзякую за размову, віншую з поспехамі і прыгожым юбілеем ды жадаю Табе моцнага здароўя і новых творчых задум.**

* * *

Яшчэ чароўная страфа майго субяседніка пра толькі што згаданыя творчыя задумы:

*Зноў іду прасёлачнай дарогай,*
*Зноў зялёны вецер чэша твар,*
*І рукой ківае мне бярозка,*
*І пад шапкай многа-многа мар.*

**Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# На Сакольшчыне паўстане новы помнік ксяндзу Яну Семашкевічу



Злева: Янка Быліна, Адам Станкевіч, Казімір Сваяк (Канстанцін Стаповіч)

Запамятаўся як вялікі будаўнічы першага касцёла, але перш за ўсё як той святар, які размаўляе са сваімі прыхаджанамі на беларускай мове. Дзесяць гадоў правёў ксёндз Ян Семашкевіч у невялікай парафіі Марыянова, што на Сакольшчыне. Тут старэйшыя жыхары памятаюць яго да сёння. Гэта дзякуючы іхнім намаганням ды стараннем новага пробашча парафіі вясной сёлета мае быць адрамантаваны помнік на магіле святара і беларускага паэта (ягоны літаратурны псеўданім Янка Быліна), які шмат зрабіў для беларусізацыі Касцёла.

Парафія Марыянова ў вёсачцы Бомбля з'явілася на аснове дэкрэта ад 31 кастрычніка 1946 г. Яе тэрыторыя была выдзелена з прыходаў Карыцін і Ясяноўка. Першыя спробы пабудаваць касцёл у Бомблі сягаюць 1923 года. Тады быў ужо выдадзены дазвол на будаўніцтва, але карыцінскаму пробашчу кс. Антонію Валентыновічу не ўдалося распачаць працы, паколькі быў ён пераведзены на іншую парафію. У час Другой сусветнай вайны жыхар Бомблі Ян Юркоўскі падарыў 5 гектараў зямлі пад будучы касцёл. Некалькі месяцаў пазней, у 1944 годзе, жыхары Бомблі ды навакольных вёсачак заснавалі Камітэт пабудовы касцёла, каб самастойна пачаць стварэнне святыні. Яны таксама звярнуліся да арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага з просьбай, каб той вызначыў святара, які пакіруе працамі па стварэнню новай парафіі. 5 студзеня 1946 года ўжо было вядома, што за гэта адказнасць возьме на сябе ксёндз Ян Семашкевіч. І хаця на сакольскіх землях імя гэтага каталіцкага святара не было вядомае, ужо тады яго ўклад у нацыянальную культуру быў важкі.

Ян Семашкевіч нарадзіўся 30 красавіка 1883 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Лакцяны на Астравеччыне. У 1907 г. скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. У час вучобы завязаў сяброўства з будучымі віднымі беларускімі святарамі Францішкам Грынкевічам, Францішкам Рамейкам, Уладзіславам Талочкам. З 1917 г. служыў у парафіі Лаварышкі Ашмянскага павета. Ксёндз-беларус не хаваўся са сваёй роднай мовай перад прыхаджанамі. Аднак хутка пераканаўся, што ў меру таго, як расла свядомасць патрэбы роднай мовы ў святыні і зазначалася дамаганне там правоў для яе, з польскага боку таксама раслі перашкоды, якія плылі не толькі з кругоў грамадскіх і духавенства, але таксама з боку свецкай улады. Пра перашкоды, якія сустракаў на сваёй дарозе святар, пісала ў 1929 г. „Хрысціянская думка".

„Tak naprykład dajšło ŭ toj čas da wiedama Wilenskaha Starasty, što Ks. J. Siemaškiewič, probašč u Ławryškach pry katechizacji dziaciej karystajecca tak-ža i mowaj biełaruskaj. Woś-ža Starasta 1921 hoda 13.V. papieraj za numar 84 zahadwaje načalniku II rejonu Wilenskaha paw. Emilu Narwojšu zrabić u hetaj sprawie tajnaje daznańnie. 28 traŭnia taho-ž hodu toj-ža načalnik spiswaje pakazańni čatyroch parafian Ławaryskich z čatyroch wiosak. U adnym pakazańni čytajem tolki śćwierdžańnie faktu, što Ks. Siemaškiewič wuča dziaciej i pa polsku i pa biełarusku".

У 1928 годзе кс. Ян Семашкевіч узначаліў парафію ў Дукштах на Віленшчыне. Тут святар не толькі заняўся пабудовай новай плябаніі, але таксама пакінуў па сабе неацэненую працу на ніве гісторыі. Ён распрацаваў невялікую манаграфію, прысвечаную мінуўшчыне мясцовасці Дукшты-Піярскія. Верагодна, адзіны экземпляр рукапісу знаходзіцца ў Гістарычным архіве ў Вільні. У манаграфіі святар заўважае і апісвае цікавыя дэталі з жыцця горада і жыхароў наваколля ў міжваенны перыяд.

З 1933 г. кс. Ян Семашкевіч быў высланы з духоўнай паслугай на Беласточчыну. Першапачаткова ўзначальваў парафію ў Янаве-Падляшскім, Ялоўцы, Міхалове ды ў канцы трапіў у Бомблю дзе служыў з 1946 па 1956 год, да сваёй смерці.

Ксёндз Ян Семашкевіч пасля месяца душпастырскай працы на новай парафіі ў Бомблі 2 лютага, у будаванай тады святыні, адслужыў першую імшу. Урачыстае асвячэнне касцёла адбылося пад канец верасня 1946 года. Да сёння жыхары Бомблі з сентыментам успамінаюць першую святыню, якая паўстала ў вёсцы. Дзякуючы настойлівасці ксяндза Семашкевіча ды вялікай прыхільнасці і руплівай працы прыхаджан, касцёл быў пабудаваны ў так хуткім часе.

— Памятаю, як будавалі мы лесвіцы ў святыні, — успамінае спадар Раманоўскі з Бомблі, якому ўжо больш за дзявяноста. — Трэба было паспець да часу нядзельнай імшы. Працавалі цэлую суботу, дзень і ноч. Увечары айцец Семашкевіч прынёс нам хлеб і вараныя яйкі, каб мы мелі сілу паспець на час. Працу скончылі, калі людзі ўжо сходзіліся ў касцёл. Даручаная ім праца заўсёды павінна была быць зроблена на час. Такім ён быў.

Драўляны касцёл, хаця невялікі, меў непаўторны каларыт.

Галоўны алтар ды выявы

працяг ☞ 11




Музычныя гурты — аб'яднанні даволі нетрывалыя. Кожны можа прыгадаць такія калектывы, зоркі славы якіх узыходзілі, яскрава зіхацелі, а потым ціхенька паміралі ў забыцці сваіх жа прыхільнікаў і паклоннікаў. Рэдка якое музычнае аб'яднанне, асабліва ў нашы дні, перажывае хаця б адно дзесяцігоддзе. І калі такое здараецца, то пра гэта ўжо варта з павагай узгадаць, асабліва калі дзейнасць такіх музыкаў так ці інакш накіравана на карысць беларушчыны.

Больш за адзінаццаць гадоў таму ў № 51 за 2004 год на старонках „Нівы" ўзгадваўся гурт „Стары Ольса", што іграў і дагэтуль іграе беларускую сярэднявечную музыку, і, адпаведна, распаўсюджваў пра яго сайт у інтэрнэце. За прайшоўшае дзесяцігоддзе ўцякло шмат вады ў ручаі Ольса, імя якога ўзялі для назвы свайго гурта музыкі, змянілася і іх прадстаўніцтва ў інтэрнэце, хоць адрас яго застаўся той жа — **http://staryolsa.com.**

Змена выгляду сайта адзначаецца ва ўсім, акрамя лагатыпічных выяў, як, напрыклад, эмблема гурта ў выглядзе гравюры. На ёй па-ранейшаму выяўлены гусляр з гуслямі, а над ім і пад ім назва гурта лацінкай і кірыліцай. Усё астатняе зменена настолькі, што наўрад ці мае сэнс увогуле параўноўваць з былым інтэрфейсам „ольсаўскага" сайта.

Новае інтэрнэт-прадстаўніцтва „Старога Ольсы" адлюстроўвае амаль усе змены, што за прайшоўшыя гады адбыліся з інтэрнэтам. Цяпер карыстальнік мае магчымасць і пабачыць, і пачуць як спявае і выступае гурт, спампаваць улюбёныя кампазіцыі сабе на камп'ютар, каб потым перанесці на флэш-карту. Уся гэтая мультымедыйнасць ёсць на абноўленым сайце „Старога Ольсы".

Што ж тычыцца зместу, то гурту, натуральна, ёсць што пра сябе распавесці, асабліва калі ўлічваць, што сёлета яму споўніцца 17 гадоў. „Запісаныя 11 альбомаў і 1 музычны праект. Музыка гурта ўвайшла ў 7 зборнікаў выканаўцаў старадаўніх мелодый", — распавядаецца на старонцы „Гурт", выйсце на якую месціцца ўверсе цэлага выяўлення. Дарэчы, на данай старонцы знаходзяцца не толькі фотаздымкі цяперашніх сябраў гурта, але і тых, што ігралі ў ім раней.

Нягледзячы на тое, што за прайшоўшыя гады музыкі набылі добрую і шырокую вядомасць у Беларусі, тыя, хто пра іх яшчэ не ведае, можа пазнаёміцца з творчасцю гурта ў рубрыках „Галерэя" і падрубрыцы „Альбомы". „Галерэя" дазваляе пабачыць і пачуць песні ў выкананні „Старога Ольсы" і знятыя на іх кліпы. „Альбомы" змяшчаюць выявы і пералік песень, што былі запісаны музычным калектывам ад 2000 да 2013 года.

Варта адзначыць, што сайт гурта даволі аператыўна абнаўляецца. Аб гэтым сведчыць старонка „Навіны", якая месціцца напачатку цэлага пераліку на галоўнай старонцы. З большага паведамленні там тычацца выступаў „Старога Ольсы" з канцэртамі, але ёсць перадрукі артыкулаў і інтэрв'ю.

Паколькі гурт за прайшоўшыя гады „апярыўся" і „стаў на крыло", то справы па зарабленню ім грошай пастаўлены на трывалую глебу. Тыя, хто жадае, каб „Стары Ольса" выступіў для іх, на старонцы „Кантакты" знойдзе не толькі нумары тэлефонаў, але і банкаўскі рахунак, і райдар. А ў „Фан-зоне" месцяцца выявы рэчаў з лагатыпам гурта, якія можна набыць.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Пакутныя этапы гісторыка

# 110 гадоў з дня нараджэння Мікалая Улашчыка



Выдатны беларускі гісторык, археограф, археолаг, этнограф, краязнавец, літаратар Мікалай Улашчык нарадзіўся 14 лютага 1906 г. у вёсцы Віцкаўшчына Койданаўскай воласці (цяпер Дзяржынскі раён) у дваццаці вярстах ад Мінска. Вядомы сваімі навуковымі працамі па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, праблемах летапісання, крыніцазнаўства і археаграфіі.

Паходзіў Улашчык з сям'і заможнага селяніна, бацькі былі родам з Навагрудчыны. Продкі будучага гісторыка на былых радзівілаўскіх землях фактычна сталі заснавальнікамі вёскі Віцкаўшчына. Мікалай быў шостым, перадапошнім, дзіцём у сям'і. Вучыўся спярша ў двухкласнай школе ў Самахвалавічах, потым у Мінску ў беларускай школе. Захапленне родным словам, літаратурай сілкавала цікавасць юнака да гісторыі.

У 1924-1930 гг. Улашчык працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і Кніжнай палаце БССР. Браў актыўны ўдзел у беларускім жыцці Мінска. Друкавацца пачаў з 1924 г. У 1929 г. скончыў сацыяльна-гістарычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Удзельнічаў у археалагічных экспедыцыях, а пасля сам іх арганізоўваў — на Банцараўскае гарадзішча пад Мінскам, Мазыршчыну, Тураўшчыну, Полаччыну.

Калі ішлі рэпрэсіі, быў арыштаваны ў Ленінградзе ў чэрвені 1930 г. фактычна за краязнаўчую працу, праходзіў па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Абвінавачаны ў тэрарызме і ў красавіку 1931 г. высланы на пяць гадоў у Налінск Вяцкай вобласці (Расія). Спрабаваў здзейсніць уцёкі на Захад, але паўторна арыштаваны ў ліпені ў 1932 г., пазней этапаваны ў Марыінскі лагер (Навасібірская вобласць), потым у пасёлак Суслава Кемераўскай вобласці. Статус ссыльнага змяніўся на стан нявольніка ў канцлагеры. Вызвалены вясной 1935 г. без права вяртання ў Беларусь. Змушана жыў у розных гарадах СССР — Ташкенце, Кіраве (Вятцы), Чарапаўцы, Іванаве, Саратаве, урэшце Ленінградзе, дзе была жонка. Працаваў настаўнікам, але рэпрэсіўная машына зноў патрабавала ахвяр. У чэрвені 1941г. Улашчык арыштаваны і этапаваны ў турму Златавуста Чалябінскай вобласці. Пры заступніцтве акадэміка Лявона Арбелі ў лістападзе 1942 г. вызвалены. Выйшаў з турмы ледзь жывым з мноствам хвароб, якія напаткалі яго ў нечалавечых умовах зняволення. Выхадзілі і памаглі вярнуцца амаль з таго свету сваякі, у прыватнасці малодшая сястра Вольга. Вясной 1943 г., крыху акрыяўшы, Улашчык падаўся ў Казань да жонкі, кароткі час працаваў выкладчыкам гісторыі ў мясцовай медычнай вучэльні. Потым па рэкамендацыі таго ж Арбелі прыехаў у Маскву ў аспірантуру.

У 1948 г. выкладаў у Маскоўскім універсітэце. Але наперадзе былі новыя здзекі савецкай сістэмы. У 1949 г. звольнены з працы. Арыштаваны ў снежні 1950 г., этапаваны ў лагер пры пасёлку Суслава ў Сібіры. Вызвалены толькі ў сакавіку 1955 г. Вярнуўся ў Маскву. Да 1986 г. працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН СССР. Фактычна большая частка яго дарослага жыцця прайшла ў чужынскіх гарадах, далёка ад родных мясцін.

Памёр Мікалай Улашчык 14 лістапада 1986 г. у Маскве. Спярша яго пахавалі на Міцінскіх могілках пад Масквой. Але вясной наступнага года парэшткі перавезлі і пахавалі на Чыжоўскіх могілках у Мінску побач з жонкай. На магіле выдатнага гісторыка валун з выбітым купалаўскім радком: „Мне сняцца сны аб Беларусі...". Пастаўлены помнік Улашчыку і ў Старых Дарогах.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

святых былі зроблены народнымі мясцовымі майстрамі. Касцельную вежу ўпрыгожыў паўтонны звон. На жаль, гэтага касцёла ў Бомблі ўжо няма. Яго месца заняў сучасны па архітэктуры, мураваны будынак. Той пабудаваны Семашкевічам быў перанесены ў падбеластоцкую Грабаўку. Прыхаджане парафіі ў Бомблі да сёння шкадуюць сваёй першай святыні, якая была сапраўды іхняя і блізкая.

Кс. Ян Семашкевіч — выдатны беларускі святар запамятаўся прыхаджанамі не толькі як вялікі будаўнічы першага касцёла, але таксама як духоўны, з якім можна было паразмаўляць на блізкай, простай (беларускай) мове.

— З ксяндзом Семашкевічам мы размаўлялі па-свойму. Ён заўсёды так да нас звяртаўся. Не помню ці ў касцёле гаварыў ён па-беларуску, але так з людзьмі заўсёды па-нашаму, — успамінае спадарыня Раманоўская з Бомблі. — Памятаю яшчэ, што быў ён строгі і не дазваляў жанчынам у касцёл прыходзіць без хусткі на галаве.

Цяперашні пробашч парафіі ў Бомблі Андрэй Гарачы цікавіўся лёсам свайго папярэдніка айца Яна, спазнаў яго літаратурную творчасць і заслугі на ніве заангажаванасці ў беларускасць у Касцёле.

— Ведаю, што ксёндз Семашкевіч быў для беларусаў важнай постаццю. Пісаў ён вершы, перакладаў касцельныя песні на беларускую мову. Напэўна для шматлікіх людзей гэта доказ, што і каталікі могуць лічыць сябе беларусамі.

Ужо ў 1917 годзе ў віленскай газеце „Гоман” упершыню былі надрукаваны вершы Янкі Быліны. Творчая спадчына паэта не вельмі вялікая. Але каштоўнасць ягоных твораў вызначаецца тым, што яны выклікалі цікаўнасць да жыцця беларусаў. Паэт пісаў пра простага чалавека з народа, пра яго жыццёвыя праблемы. Янка Быліна імкнуўся ўнесці свой уклад у жанравую і тэматычную разнастайнасць беларускай літаратуры. „Хрысціянская думка”, у якой таксама друкаваўся Янка Быліна, вельмі высока ацэньвала яго ўклад у развіццё беларускай літаратуры ды беларускага слова ў рэлігійным жыцці:

„Haworačy ab hetych zasługach Ks. J. Siemaškiewiča dla rodnaj mowy ŭ Kaściele, treba tut zaznačyć, što maje jon ich značna bolš. Ks. J. Siemaškiewič — adziny dahetul biełaruski bajkapiśmieńnik, swój poetycki talent paświačaje takža i dla rodnaj mowy ŭ światyni. U hetym kirunku jość jon siannia, takža adzinym u Biełarusaŭ, hodnym nastupnikam św. pam. Stepowiča (Kazimira Swajaka). Usio, što siannia pakazwajecca ŭ świet z haliny biełaruskaj relihijnaj paezii — heta płod tworstwa Ks. J. Siemaškiewiča”.

У 60-ю гадавіну ягонай смерці, якая выпадае 18 лютага, узнікла ідэя, каб паставіць помнік выдатнаму беларускаму святару на ягонай магіле. Прыгадаем, што айцец Ян Семашкевіч быў пахаваны ля парафіяльнага касцёла ў Бомблі. Як абяцае цяперашні пробашч Андрэй Гарачы, новы помнік будзе ўсталяваны вясною. Добра было б, каб на дошцы апынулася нейкая інфармацыя пра ягоную беларускую дзейнасць. Гэта гадамі напамінала б нам, што маем права змагацца за нашу мову, якая павінна заняць належнае ёй месца ва ўсіх дзялянках жыцця. Адзін з даследчыкаў беларускай літаратуры Марыян Пецюкевіч запамятаў яго як шчырага патрыёта. У лістах да Аляксандры Бергман пісаў: „Ja bym nawet śmiał powiedzieć, że J. Siemaszkiewicz „błogosławił” rewolucyjną działalność Taraszkiewicza. Wynikało to z rozmów, jakich ja bywałem świadkiem. J. Siemaszkiewicz nie był kontrrewolucjonistą, chociaż chodził w sutannie. Nieraz mówił mnie: „Kab mianie nie zwiazwała sutanna pa rukach i nahach — ja b čerciam hoławy zrywaŭ, tym čerciam, jakija niawolać naš narod”...

**Уршуля ШУБЗДА**

## „Попел і памяць. 1946” у беластоцкім драмтэатры

Тэатр „Чрэво”, які вядомы пастаноўкамі на беларускай гаворцы, рыхтуе чытанні ўспамінаў людзей перажыўшых пацыфікацыю вёсак на Падляшшы атрадам Рамуальда Райса „Бурага”. У чытаннях „Попел і памяць. 1946” апрача ўспамінаў сведкаў будуць прадстаўлены фрагменты інфармацыі Інстытута нацыянальнай памяці адносна гэтых здарэнняў, кажа заснавальніца тэатра „Чрэво” Яанна Троц: — *Будзем чытаць фрагменты гэтай інфармацыі, бо там вельмі многа, можна чытаць і чытаць. Разам з фрагментамі будзем чытаць успаміны людзей, якія перажылі гэтую пацыфікацыю. Успаміны выйшлі ў „Ніве” ў 1990-х гадах*. Чытанні „Попел і памяць. 1946” адбудуцца ў пятніцу 12-га лютага ў Беластоцкім драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі. Пачатак а 19-й гадзіне. Пасля чытанняў пройдзе дыскусія з удзелам беларускіх гісторыкаў Славаміра Іванюка і Алега Латышонка.

**Радыё РАЦЫЯ**

## Дэмаграфія Чаромхаўскай гміны

Плошча Чаромхаўскай гміны складае 9 673 гектары. У гміне дванаццаць салэцтваў: Беразышчы, Баброўка, Чаромха-Станцыя, Чаромха-Сяло, Янцэвічы, Кузава, Апака-Вялікая, Пагулянка, Полаўцы, Ставішчы, Вулька-Тарахоўская, Зубачы. Астатнія чатырнаццаць мясцовасцей гэта Боркі, Хлевішчы, Дэргаўка, Гайкі, Конік, Апалёванка, Осып, Пішчатка, Падараб’е, Познікі, Рэпішчы, Селякевіч, Тэрахі і Туроўшчына. У мінулым пражывалі тут людзі, бурліла жыццё. З ходам гадоў пасёлкі апусцелі. Пасля вайны, як устанаўлівалі польска-савецкаю мяжу, дык часць насельніцтва перасялілася ў Савецкі Саюз (зараз Рэспубліка Беларусь). Апошнія жыхары памерлі або пераехалі ў Чаромху-Станцыю. Патомным засталіся адно назвы ўрочышчаў, якія напамінаюць мінулае. Занепадаюць сёлы, старэецца грамадства. У перыядзе дзесяці гадоў лік насельніцтва ў гміне скараціўся на 353 жыхароў. У 2014 годзе, напрыклад, гміна лічыла 3 385 чалавек, у тым ліку 1 755 жанчын, непаўналетніх — 455, працаздольных 2 023 і 907 чалавек пенсійнага ўзросту. Нарадзілася 22 дзетак, памерлі 53 асобы. У пачатковай школе вучылася 149 вучняў, у гімназіі — 79, а садок наведвала 51 дзіця. На дзень 31 снежня 2015 года ў гміне прапісаных было 3 383 жыхары. На працягу года нарадзілася 16 дзетак, тым ліку трое ў Англіі, памерлі 53 асобы, зарэгістраваліся 28 шлюбныя пары.

А вось як выглядае ўзроставая структура насельніцтва гміны на 1 студзеня 2016 года:

| Узрост | Жанчыны | Мужчыны | Разам |
|---|---|---|---|
| 0-2 гады | 41 | 21 | 62 |
| 3 гады | 14 | 17 | 31 |
| 4-5 гадоў | 17 | 23 | 40 |
| 6 гадоў | 12 | 11 | 23 |
| 7 гадоў | 9 | 9 | 18 |
| 8-12 гадоў | 58 | 60 | 118 |
| 13-15 гадоў | 50 | 41 | 91 |
| 16-17 гадоў | 25 | 34 | 59 |
| 18 гадоў | 18 | 19 | 37 |
| 19-60/65 гадоў | 932 | 1109 | 2041 |
| Больш за 60/65 гадоў | 589 | 273 | 862 |
| Разам | 1765 | 1617 | 3382 |

Даўней працвітаючы чыгуначны цэнтр спасціг цывілізацыйны рэгрэс. Такое, мабыць, воўчае права натуры.

**Уладзімір СІДАРУК**

# 14.02 — 20.02

**(22.03. — 20.04.)** Лішак эмоцый увесь месяц, не дадавай іх яшчэ больш. Твой гарачы тэмперамент будзе цябе насіць, а найбольш узлуе цябе лагода і апанаванне блізкіх. Ды дынаміт у табе будзе малець. Можаш трапіць на нейкае абмеркаванне, кангрэс, кранаючы твой занятак, што дасць табе многа задавальнення і магчымасцей заробку. Добра было б табе на гэтым засяродзіцца, нават калі гэта яшчэ прымерка да далёкага праекта.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш баявіты, жвавы, выклічаш зацікаўленасць іншага полу. Трэба будзе выбраць — ці мабілізавацца на працы і зарабляць немалыя грошы, ці марыць пра багацце на канапе. Не адплывай у мары! Паміж 18 і 20.02. можаш быць справакаваны выкласці каву на лаву; можа дайсці да канфрантацыі, а ў пары можа павеяць сібірскім марозам.

**(22.05. — 22.06.)** 14.02. скончыцца этап замяшання ў тваім жыцці. На працы можаш разгарнуць крылы. Адблакуецца энергія. Павыкідвай з хаты непатрэбшчыну. Ад 18.02. бліснеш красой і твае шанцы на ўдалыя рандэву павялічацца. Увесь час будзеш змагацца з выпрабаваннямі лёсу, канчаткова з поспехам.

**(23.06. — 23.07.)** Эмацыйны час! Выходзь з хаты, паказвайся сярод людзей. Самотны Рак няхай выбіраецца на «паляванне» — знойдзе сваю братнюю душу. Надыдуць доўгачаканыя змены, найхутчэй адчуюць гэта артысты — пхайцеся са сваімі творамі на афішу, не зважаючы на крытыку — чым больш розгаласу выкліча ваш твор, тым большай будзе зацікаўленасць. Не бойся прывіду беспрацоўя.

**(24.07. — 23.08.)** Заквітнее кампанейскае жыццё. Новыя знаёмыя аколяць цябе тлумам, але не без інтарэсу, будуць лічыць цябе ўплывовай асобай. Вельмі пільнуйся — сярод іх будзе небяспечная асоба, якая схацела б стаць тваім гуру, маніпулянтка. Не стань да нейкага небяспечнага саперніцтва, не ўключыся ў нейкую групу тыпу сектанцкай. Могуць наступіць нейкія пачуццёвыя скрыжаванні. І не рызыкуй за рулём ці на лыжах.

**(24.08. — 23.09.)** 15.02. незвычайная падзея ў сям’і і сямейныя нарады наблізяць вас. 20.02. сюрпрыз каханай асобы. Усе іншыя справы не будуць ісці прыпяваючы, але ўсё ж наперад. На працы не спадабаецца табе пазіцыя шэрага працаўніка, якога заслугі ўсе выкарыстоўваюць, хаваючыся за яго плячыма. Калі ты ўжо шэф ці маеш сваю фірму, надышоў час экспансіі.

**(24.09. — 23.10.)** Рамантычныя валянцінкі! Ад 13.02. будзеш гатовы ажыццяўляць свае інвестыцыйныя планы. Не вяртайся ў думках да страчанага. Вытрымліванне жыццёвай раўнавагі і трыманне кроку самому сабе — нялёгкая гімнастыка — у лютым будзеш мець за гэта залатую медаль!

**(24.10. — 22.11.)** Мноства перашкод, мабілізуючых цябе да перамогі. Будзеш заваёўваць свет, але можаш дастаць гузака — моц з табою, але ўмей адхіліцца. Увесь Задыяк табе дапамагае. Лагодна ацепліцца твая ўява пераможцы, але таксама паявіцца пачуццё, якое хутка не міне. Рэалізуй усе старыя задумы. Шанц удачы маюць вялікія жыццёвыя планы. Прыбудзе многа каштоўных знаёмых, будучых тваіх супольнікаў і паплечнікаў. Можаш выйграць нейкі конкурс.

**(23.11. — 22.12.)** 17.02. возьмешся за цяжкае саперніцтва і выйграеш. 19.02. выкалупаешся з псіхічнай ямкі. Не перавялічвай драбязы і праблем, якіх папраўдзе няма. Прыбыткі не будуць імпазантныя, але ўсё ж будуць, бо і сам не будзеш выдаваць зашмат — так можна дайсці да першага мільёна. Не абжырайся!

**(23.12. — 20.01.)** 14.02. дасі панесціся пачуццям! 19.02. можа захапіць цябе эзатэрыка і спазнаванне таямніц. Не старайся пераганіць рэчаіснасці, дапільноўвай тэрмінаў і рабі сваё. Вырастуць твае шанцы на каханне — у тваім асяроддзі нямала асоб, якія толькі чакаюць!

**(21.01. — 19.02.)** Не бойся адважных змен. Будзеш мець арыгінальныя задумы, дацэняць твой індывідуалізм. Не бойся, калі ты страціў працу — пасыплюцца новыя прапановы. Будзе многа дзеяцца — нейкія выступленні (з поспехам!), культурныя падзеі, удалыя экзамены...

**(20.02. — 21.03.)** Пільнуй сваёй дарогі, каб не выйсці на бездарожжа, і партнёра, якому будзе нялёгка давяраць. Нептун паможа ў развіцці таленту. 16.02. можаш быць рассеяны, не бярыся за важнае, глядзі, што падпісваеш! Сярод радні можа выявіцца скандал са скрыванай любоўю (бура аціхне).

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — яўрэйскую пагаворку.

1. пасяўны матэрыял для буры = 7 _ 6 _ 13 _ 25 _ 28 _;
2. могуць быць чорныя або блакітныя, могуць зліпацца або на лоб лезці, можна іх замыльваць або заплюшчваць = 26 _ 24 _ 1 _ 31 _;
3. запруда = 3 _ 2 _ 32 _ 33 _;
4. тэрыторыя, якая характарызуецца нейкай агульнай прыметай, напрыклад тэрыторыя адчужэння Чарнобыльскай АЭС = 20 _ 4 _ 15 _ 10 _;
5. адзінка электрычнага супраціўлення = 19 _ 22 _;
6. Белая, Чорная або Галіцкая = 18 _ 21 _ 36 _ 14 _;
7. абласны горад у Забайкаллі = 34 _ 27 _ 23 _ 35 _;
8. дарога з цвёрдым пакрыццём = 30 _ 29 _ 17 _ 16 _;
9. імя Эбадзі, лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі міру за 2003 год = 11 _ 12 _ 9 _ 8 _ 5 _.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | 5 | 6 | | | | | | | | |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | 15 | 16 | 17 | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |
| | | | | | | | | 34 | 35 | 36 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара**

Пагода, Доўгае, вайна, печ, клака, інжыр, прыступка, мішэнь.

**Рашэнне: Голай авечкі не астрыжэш.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (32)

Палешукі зробяць усё, каб зрабіць на падарожніку добрае ўражанне. Яны гатовы на хаду памяняць планы, навесці сябе на кошт, каб толькі прыслужыцца і дапамагчы. Па дарозе яшчэ заангажуюць у дапамогу знаёмых, сваякоў. І ўсё гэта без спадзявання на заробак, рэванш, паклоны.

— Хопіць, як добра пра нас падумаеце, — скажуць на развітанне.

Найбольш аднак уражвала іх чарадзейная здольнасць чытаць пажаданні гасцей. Быццам хто нашаптаў на вуха як яшчэ выклікаць большую задаволенасць прыгоднага бадзягі.

У Мілячы настаўнікі запрасілі мяне паглядзець школьны краязнаўчы музей. Сказаць, што гэта было здзяйсненне маіх мар, дык не сказаць галоўнага. Ад пачатку сваіх вандровак я шукала менавіта такіх музеяў з экспанатамі, сабранымі ў адным месцы. Палеская этнаграфічная адметнасць, якой яшчэ адносна нядаўна славіўся балотна-лясны рэгіён, толькі дзе-нідзе прабівалася праз агульнаўкраінскія трэнды і брэнды. Самі палешукі быццам не памяталі ўжо пра свой драўляна-ільняны свет матэрыі. Мала хто хацеў гаварыць пра лапці, саламяныя стрэхі. На пытанне пра адметнасць яны гаварылі так, каб адначасова не сказаць замнога: „Палешук гэта менталітэт”.

А мне патрэбны былі канкрэты.

* * *

На калідоры ў мілячанскай школе-адзінацаццігодцы красаваўся лозунг: *Навучыся жыць сярод людзей і для людзей!*

Дзве прылюдныя прыбіральшчыцы ў хустках чысцілі выслужанымі анучкамі падлогу. Жанчыны палічылі мяне госцем з далёкага краю і запрасілі пачакаць у прыбраным кутку, на фатэлі. Пры рабоце яны абмяркоўвалі апошнюю сенсацыю. Вучань старэйшага класа драпануў з урокаў, папёрся за нейкай хеўрай капаць бурштын. Жанчыны паўшэптам разважалі: ці захаваць ім сакрэт, ці данесці настаўнікам? Скажы праўду, будзе авантура і пакаранне. Затаіць справу яшчэ горш. Там жа пры янтары мафія. Што будзе калі яго паб'юць ці падстрэляць? Як пасля глянуць у вочы яго матулі?

Уся гутарка мела прысмак канспірацыі. Цёткі размаўлялі на сваім дыялекце, паўшэптам, з дапамогай жэстаў. Іх тайну мела ахоўваць упэўненасць, што мілячанскай мовы не можа зразумець ніхто звонку, а ўжо найбольш замежная госця. І праўда, я ледзь-ледзь паспявала скласці сэнс з эмацыйнага патоку архаічных моўных канструкцый і гукаў...

Тым часам у кабінеце дырэктар Святланы Уладзіміраўнай Охмак арганізавалі візіт у музей. Хоць знаходзіўся ён у адным будынку, на дарозе, як у якой магічнай казцы, вырaслі нечаканыя перашкоды. Адказны за музей працаўнік зышоў дамоў. Каб вярнуць яго ў школу, патрэбны быў час і ахвяры, карацей, трэба было адарваць чалавека ад новай работы, пачакаць пакуль ён памыецца і пераапранецца ў чыстае адзенне, вернецца ў школу з ключамі і адкрые дзверы музея. Цэлы гэты рытуал не быў выпадковы. У тым часе я даведалася пра незайздросную долю музея. Установа раней працавала ў мясцовым Доме культуры, які зараз, беручы пад увагу эканамічны крызіс, знаходзіцца пад ключамі.

Апошняя і адзіная імпрэза была праведзена ў ім у Дзень незалежнасці Украіны. Да гэтага часу паспелі перанесці і нанава наладзіць музей. Місію даручылі школе. Што здарылася раней? У час дэстабілізацыі ўлады музей сталі расцягваць рабаўнікі. Экспанаты гінулі літаральна на вачах. Адны хапалі іх для забавы, іншыя на продаж аматарам старыны.

* * *

Музей аглядала я пад ганаровым эскортам. У ролі гідаў, апрача кіраўніка Уладзіміра Міхайлавіча Охмака выступілі яшчэ намеснік дырэктара школы Аляксандр Сала і малады настаўнік Сяргей Якубовіч. З парога ў вочы кінулася разнаколернасць вышыванак і тканін, а сам зал прыводзіў на думку палескі хатні агародчык, гонар дбайнай мясцовай гаспадыні. Найстарэйшыя, сшытыя ўручную кашулі з саматканага ільнянога палатна былі прыаздоблены чырвоным арнаментам з перавагай фігуратыўных узораў. Паводле спецаў узор змяшчае закадаваны магічны камунікат або пажадальны лозунг. Праўда, амаль усе ручнікі і абрусы, фартушкі і макаткі паходзілі з пачатку XX стагоддзя і былі вышыты паводле модных на той час узораў, распаўсюджаных па ўсёй царскай імперыі. Галоўны матыў складалі раслінныя і птушыныя матывы: ружы, васількі, званочкі і салавейкі, вышытыя чырвонымі, блакітнымі, ружовымі, фіялетавымі і зялёнымі ніткамі.



Уладзімір Охмак





Адзін стэнд адведзены ганчарству сяла Міляч. Узоры чэрпалі з недалёкага мястэчка Гарадная, якое ў міжваенны час славілася гэтым відам рамяства на ўсё Палессе. Хоць збаны і гладышы паходзілі з другой паловы XX стагоддзя, яны смела маглі б прыкідвацца пасудай з часоў сярэдневякоўя. Такі ж працяг стагоддзяў сумяшчалі ў сваіх дзівосных кшталтах драўляныя прадметы для рыбалкі, прылады для апрацоўкі ільну, ткацкія станкі і прадметы для ўборкі сена і перапрацоўкі збожжа.

Чарговая выстаўка, на якой прэзентаваліся манеты і папяровыя грошы, разбівала міф пра ізаляванасць грамадства. Палешукі гандлявалі ўжо ў часы Рымскай імперыі, пра што сведчаць манеты, знойдзеныя ў час археалагічных раскопак гарадзішчаў і курганоў. Найбольш было наміналаў з часоў Расійскай імперыі. Сучаснасць адлюстроўваюць грыўня і ... бурштын!

Не менш крута паказаны мілітарныя артэфакты — сякеры, жалезныя наканечнікі, шлемы, шчыты, нажы, гільзы... У музеі я пабачыла план мясцовасці, аколенай азёрамі, лясамі, балотамі. Там захаваліся арыгінальныя, не пераведзеныя на ўкраінскую мову назвы ўрочышчаў і балот. Тапонімы здаліся знаёмымі, свойскімі і адначасова інтрыгуючымі. Тут былі *Прыдаткі, Крыкнова, Бэрэзова, Квачово, Крачэво, Забэрэз, Попрохонь, Ляхово, Язвіно, Голля, Осовлі, Мэдвэжыца*... А ўжо найбольш здзівіла *Бабіна погоня*. Адкуль такая феміністычная назва ў патрыярхальнай старонцы? Настаўнікі паяснілі, што гэтая назва пайшла ад гістарычнага здарэння. У час нямецкай акупацыі жанчыны з дзеткамі і старэчамі, каб ацаліць жыццё, перачакаць ліхалецце збягалі ў дзікае, недаступнае месца. Выжыць на востраве сярод балот дапамагалі каровы, з якімі паляшук ніколі не расстаўся...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960